**Актыўная ацэнка: метад. дапам.** / укл. Н. Ільініч.
– Мінск, 2011. – 83 с.

# Змест

**Прадмова**..........................................................................4

**Тамара Мацкевіч.** З гісторыі актыўнай ацэнкі..............................5

**I. Асновы метаду актыўнай ацэнкі**

**Данута Стэрна**

Ацэнка, непадобная ні да чаго....................................11

Правілы актыўнай ацэнкі...........................................18

Бацькам пра АА ....................................................22

**II. Досвед беларускіх педагогаў**

**Мікалай Запрудскі.** Актыўная ацэнка – новая стратэгія навучання ...........................................................29

**Алена Радзевіч.** Як зрабіць мэту урока дасягальнай" ....40

**Міхась Кудзейка.** Каб адзнака стала актыўнай.............49

Водгукі беларускіх настаўнікаў пра АА..........................60

**III. Дадаткі**

*Дадатак 1.* Форма канспекта ўрока згодна з прынцыпамі актыўнай ацэнкі .....................................................65

*Дадатак 2.* Памятка "Як падрыхтаваць зваротную інфармацыю ад настаўніка да вучня"..........................66

*Дадатак 3.* Прыклады мэт настаўніка і тыя ж мэты мовай вучняў на ўроку......................................................67

*Дадатак 4.* Прыклады ключавых пытанняў....................73

*Дадатак 5.* Распрацоўкі ўрокаў, згодна з прынцыпамі АА

1. **Ала Ярмак.** План урока па прадмеце «Мая Радзіма Беларусь» *Тэма:* Мы і нашы суседзі...........................74

2. **Вольга Каляда.** План выхаваўчага мерапрыемства згодна з прынцыпамі АА. *Тэма:* Сабака – верны сябар ча лавека.............................................................76

3.**Таццяна Барткевіч.** План урока беларускай мовы. *Тэма:* Складаныя назоўнікі, іх правапіс......................78

**Карысныя спасылкі**.......................................................83

# Прадмова

Метад актыўнай ацэнкі – гэта не штосьці новае. Гэта толькі прывядзенне ў сістэму тых метадаў і прыёмаў, якія вядомыя настаўнікам і часта інтуітыўна выкарыстоўваюцца імі ў залежнасці ад групы і сітуацыі. Актыўная ацэнка азначае свядомае і мэтавае выкарыстанне настаўнікам гэтых метадаў, падпарадкаванне іх адной мэце. Калі хочам вучыць эфектыўна, варта зрабіць актыўную ацэнку цэнтральным арганізацыйным пунктам навучання, працы настаўніка і настаўніцкага калектыву. Тады працэсы выкладання і навучання могуць быць прааналізаваныя і стаць больш дасканалымі. Менавіта такі спосаб правядзення актыўнай ацэнкі можна назваць рэформай адукацыі, праведзенай знутры, – самастойна настаўнікам і педагагічнай супольнасцю. Пры такой рэформе не міністэрства, а настаўнік самастойна вызначае, што павінна змяніцца ў працэсе навучання і якім спосабам.

Меркаванні пра рэформу адукацыі могуць быць розныя. Часцей гаворыцца пра змену структуры, праграм, кантролю працы школы праз вынікі ўнутраных экзаменаў і ЦТ. Аднак не трэба забывацца, што адукацыя – гэта перадусім тое, што адбываецца паміж настаўнікам і вучнямі. І несумненна, што змены ў навучанні і спосабе вучыцца – найбольш важныя змены ў адукацыі.

Актыўная ацэнка – толькі адзін з кірункаў гэтых змен. Кніга паказвае, колькі ў школе залежыць ад настаўніка, яго пазіцыі і каштоўнасцей. Чым больш настаўнік будзе заангажаваны ў працэс змен у школе, тым лепшая перспектыва чакае беларускую адукацыю.

Гэта кніга складзеная педагогамі-практыкамі на аснове ўласнага вопыту. Матэрыялы прадставілі польскія і беларускія настаўнікі, якія засвоілі сістэму актыўнай ацэнкі падчас навучальных семінараў, аўтарскіх курсаў і перанеслі яе ў свой клас. Практыка паказвае, што актыўная ацэнка падыходзіць для любога ўзроўню і тыпу навучання, а таксама можа быць выкарыстана ў выхаваўчай пазашкольнай працы.

Кніга рэкамендуецца шырокаму колу педагогаў і метадыстаў.

# З гісторыі актыўнай ацэнкі

*Тамара Мацкевіч*

*Існуе толькі адзін шлях павысіць дасягненні вучня – гэта шлях доўгатэрміновага інвеставання ў прафесійнае развіццё настаўніка, накіраванае на штодзённую, штохвілінную актыўную ацэнку.*

*З-за таго, што эфектыўнае выкарыстанне актыўнай ацэнкі патрабуе значных змен у штодзённай працы настаўніка, яно патрабуе і стварэння навучальных настаўніцкіх асяродкаў, дзе настаўнікі маглі б прадстаўляць вынікі сваёй працы і мець узаемную падтрымку.*

*Dr. Dylan Wiliam*

Актыўную ацэнку (*Formative assessment)* яшчэ называюць ацэнкай для навучання, фарматыўнай ці фармавальнай ацэнкай.

Тэрмін быў запазычаны выдатным педагогам Бенджамінам Блумам (*Benjamin Bloom*) – аўтарам знакамітай таксаноміі педагагічных мэт[1] – у Майкла Скрывэна (*Michael Scriven*), які ўпершыню ў 1967 г. размежаваў паняцці актыўнай (фарматыўнай) ацэнкі і падсумоўваючай ацэнкі (адзнакі). У 1968 г. Бенджамін Блум у сваёй кнізе “Навучанне для майстэрства” (*Learning for Mastery*) разглядаў актыўную ацэнку як інструмент для паляпшэння працэсаў выкладання і навучання.

1967

У другой палове 80-х гадоў мінулага стагоддзя Брытанскае таварыства адукацыйных даследаванняў ініцыявала стварэнне даследчай групы для правядзення рэформы ацэначнай дзейнасці *Assessment Reform Group*. Па замове гэтай групы ў 1998 г. Пол Блэк і Дылан Уільям падсумавалі

1980-я

1. Таксономия Блума // Википедия   свободная энциклопедия [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://ru.wikipedia.org/wiki/Таксономия_Блума. – Дата доступа : 12.12.2011.

вынікі даследаванняў і змясцілі іх ў працы *Assessment and Classroom Learning*[2], дзе прааналізавалі больш за 500 навуковых артыкулаў, якія паказвалі ўплыў актыўнай ацэнкі на эфектыўнасць навучання. Пазней Блэк і Уільям напісалі яшчэ адзін артыкул “Унутры чорнай скрыні”[3] .

Выснова была адназначнай: выкарыстанне актыўнай ацэнкі – гэта вельмі надзейны спосаб павысіць эфектыўнасць навучання. Дзве брашуры аўтарства Блэка і Уільяма, прысвечаныя даследаванням ацэначнай дзейнасці і спосабам данясення метаду актыўнай ацэнкі да школ, сталі самымі аўтарытэтнымі і цытаванымі крыніцамі педагагічнай навукі ў наступных дзесяцігоддзях.

2002

Адукацыйная супольнасць Вялікабрытаніі прызнала вынікі тых даследаванняў і публікацыі па гэтай тэме вельмі істотнымі, і ў 2002 г. брытанскія адпаведнікі Міністэрства адукацыі (*Department for Education and Skills* і *Office of Standarts in Education*) выступілі з ініцыятывай пад назвай “Ацэнка, якая дапамагае вучыцца”. Тым часам *Assessment Reform Group* працягвала дзейнічаць, ініцыяваць і падтрымліваць новыя даследаванні, ствараць пілотныя праграмы. Вынікі гэтай дзейнасці выкладзены ў 2006 г. ў працы *Assessment and Learning*[4].

2005

Аднак метад актыўнай ацэнкі стаў папулярным не толькі ў Вялікабрытаніі. У 2002 г. краіны АЭСР (Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця) пры непасрэдным удзеле Цэнтра адукацыйных даследаванняў і інавацый распачалі даследчую праграму, накіраваную на перагляд ацэначнай дзейнасці ў краінах АЭСР. Вынікам гэтага стаў даклад, які быў прадстаўлены ў 2005 г. у Парыжы, дзе актыўная ацэнка была прызнана эфектыўным інструментам паляпшэння адукацыі.

У ЗША актыўнай ацэнкай пачалі больш пільна цікавіцца з 2002 г. Найбуйнейшая амерыканская адукацыйная арганізацыя ASCD (Association for Supervision and Curriculum Development) рэгулярна

2. Black, P. Assessment and classroom learning / P. Black, D. Wiliam // Assessment in Education: Principles, Policy & Practice [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.google.by/url?sa=t&rct=j&q=Assessment+and+Classroom+Learning&source=web&cd=1&ved=0CBoQFjAA&url=http%3A%2F%2Farea.fc.ul.pt%2Fen%2Fartigos%2520publicados%2520internacionais%2FAssessment%2520and%2520classroom%2520learning.doc&ei=sUPzTsfwJJGgOvCB-bEB&usg=AFQjCNE-4y9b3wtyQvtU9jOTu5_GCHrLug. – Дата доступу : 12.12.2011.
3. Black, P. Inside the black box : Raising standards through classroom assessment / P. Black, D. Wiliam // www.pdkintl.org [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.pdkintl.org/kappan/kbla9810.htm. – Дата доступу : 12.12.2011.
4. Assessment and Learning / пад рэд. John Gardner. – 2006.

праводзіць канферэнцыі, навуковыя даследаванні. Пры яе ўдзеле ў ЗША выдадзена шмат метадычных дапаможнікаў па актыўнай ацэнцы для настаўнікаў.

2010

У Чэхіі працэс рэформы ацэначнай дзейнасці пачаўся ў 2010 г. Там актыўную ацэнку ўкараняюць "зверху" – ініцыятыва ідзе ад Нацыянальнага інстытута адукацыі[5].

2010

У Польшчы актыўную ацэнку папулярызуюць грамадскія арганізацыі, пачынаючы з 2003 г. Практычна кожны польскі настаўнік можа патрапіць на семінар ці дыстанцыйнае навучанне Цэнтра Грамадзянскай адукацыі (*Centrum Edukacji Obywatelskej*) – вялікай грамадскай арганізацыі, да якой прыслухоўваецца Міністэрства адукацыі. CEO займаецца павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў яшчэ з часоў першай посткамуністычнай рэформы адукацыі, прычым трэнерамі і выкладчыкамі ў гэтым цэнтры з'яўляюцца самі настаўнікі-практыкі. Дзякуючы такой гарызантальнай сістэме адукацыі настаўнікаў Польшча дасягнула найлепшых у Еўропе паказчыкаў росту якасці сярэдняй адукацыі[6]. Паводле даследаванняў PISA Польшча знаходзіцца ў ліку краін, якія маюць паказчыкі вышэйшыя за сярэднія ў краінах АЭСР (Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця), прычым, у апошнія гады Польшча паказала значнае паляпшэнне кампетэнцый у чытанні і прыродазнаўчых навуках. Польшча знаходзіцца ў першай дзясятцы або блізка да першых дзесяці краін ЕС (5-е месца ў чытанні, 6-е месца ў галіне прыродазнаўчых навук, 11-е па матэматыцы).

2009

У Беларусі папулярызацыя методыкі актыўнай ацэнкі пачалася ў 2009 г., хоць асобныя элементы гэтай методыкі былі знаёмыя і выкарыстоўваліся беларускімі настаўнікамі даўно, яшчэ ў сістэме развіццёвага навучання. Улетку 2009 г. па запрашэнні Таварыства беларускай школы да нас з семінарамі прыехала Данута Стэрна – выдатны польскі педагог, ініцыятарка ўкаранення методыкі актыўнай ацэнкі ў Польшчы, аўтар некалькіх кніг па актыўнай ацэнцы, якая мае асабісты досвед працы па гэтай методыцы ў сістэме сярэдняй і

5 The Czech Republic's transition experience : Curriculum reform, assessment reform and teacher development // www.teachertraining.teamwork.fr [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://teachertraining.teamwork.fr/docs/Curriculum_reform_in_the_Czeck_Rep_JF.zip. – Дата доступу : 12.12.2011.
6. Comparing countries' and Economies' performance // www.oecd.org [Электронны рэсурс] – Рэжым доступу : http://www.oecd.org/dataoecd/54/12/46643496.pdf. – Дата доступу : 12.12.2011.

вышэйшай адукацыі[7]. Яна прывезла шмат матэрыялаў і захапіла сваёй апантанасцю беларускіх калег. Пасля шэрагу семінараў і стажыровак у Варшаве беларускія педагогі пачалі карыстацца сістэмай актыўнай ацэнкі ў сваёй практыцы, і атрымалі добрыя вынікі. Ужо праз год у знакамітай Альхоўцы (метадычны летнік для настаўнікаў, які праводзіцца на працягу 22 гадоў каля вёскі Альхоўка на Астравеччыне) Мікалай Іванавіч Запрудскі вёў аўтарскія курсы, прысвечаныя сістэме актыўнай ацэнкі, куды на гэты раз сабраліся не толькі настаўнікі-фізікі, але амаль уся педагагічная эліта Беларусі. Методыка спадабалася беларускім настаўнікам і цяпер актыўна пашыраецца на ўзроўні практыкаў і метадыстаў сістэмы павышэння кваліфікацыі. Грамадскія арганізацыі таксама праводзяць курсы падтрымкі, стажыроўкі для беларускіх настаўнікаў-наватараў, збіраюць і распаўсюджваюць метадычныя напрацоўкі беларускіх калег. У выніку мы маем метадычны сайт *www.aacenka.by*, публікацыі ў метадычных выданнях, а цяпер і кнігу. Беларускія педагогі на ўласным вопыце пераканаліся, што актыўная ацэнка:

- паляпшае вынікі навучання;
- фармуе ключавыя кампетэнцыі – вучыць вучыцца;
- дапамагае адукацыі вучняў, якія маюць цяжкасці ў навучанні;
- выконвае матывацыйную функцыю;
- змяняе адносіны паміж настаўнікам і вучнем.

Гэтая кніга мае шмат матэрыялаў, запазычаных з польскага досведу, які нам больш пасуе не толькі па менталітэце, але і з той прычыны, што у беларускіх варунках сучасныя тэхналогіі ў школу таксама, як і ў Польшчы, прыходзяць “знізу” – з грамадскіх аб’яднанняў, ад настаўнікаў-наватараў, апантаных спецыялістаў сістэмы павышэння кваліфікацыі.

7. Sterna, D. Ocenianie ksztaltujace w praktyce / D. Sterna. – Warszawa, 2008. – 192 c.

# Ацэнка,
# непадобная ні да чаго

*Данута Стэрна*



*Калі кухар каштуе суп – гэта актыўная ацэнка. Калі суп каштуе кліент – гэта ўжо ацэнка падсумоўваючая. Кухар яшчэ можа змяніць смак супу, а кліент – ужо не.*

***Рэпліка з канферэнцыі АЭСР па актыўнай ацэнцы ў Парыжы***

Актыўнай ацэнцы складана даць агульнае вызначэнне. У дакладзе Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР) актыўная ацэнка вызначаецца як “частая, інтэрактыўная ацэнка дасягнутага прагрэсу вучня і яго разумення матэрыялу для таго, каб акрэсліць, як вучань мае вучыцца далей і як вучыць яго найлепш”. Аднак мы часта выкарыстоўваем спрошчанае вызначэнне: **актыўная ацэнка – гэта перадача вучням інфармацыі, якая дапамагае ім вучыцца.**

У нашай школе мы галоўным чынам выкарыстоўваем ацэнку падсумоўваючую, якая служыць толькі адзнакай вучнёўскай працы. У адрозненне ад гэтага, мэтай актыўнай ацэнкі з’яўляецца перш за ўсё паляпшэнне працэсу навучання. Такая ацэнка заклікае вучняў браць на сябе адказнасць за ўласнае навучанне і дапамагае настаўніку і навучэнцам распрацоўваць план далейшых дзеянняў.

### Чаму варта выкарыстоўваць актыўную ацэнку

Усе мы адчуваем крызіс традыцыйнага спосабу навучання. Настаўнікі з розных краін шукаюць новых метадаў выкладання, якія дазвалялі б глыбей уцягнуць вучняў у працэс навучання, бо старыя метады ўжо не працуюць. Проста загад цяпер не дапамагае – настаўнік не з’яўляецца больш аўтарытэтам толькі таму, што ён – настаўнік. Вучні часта не бачаць сэнсу ў навучанні, не хочуць хадзіць у школу, а пасля яе заканчэння памятаюць пра школу толькі благое. Вядома, ёсць і вучні, і выкладчыкі, якія актыўна ўдзельнічаюць ў працэсе навучання і выкладання, але іх застаецца ўсё менш і менш. Бессэнсоўнасць

навучання ў школе, якую адчуваюць маладыя людзі, прыводзіць да росту агрэсіі, падману (напрыклад, спісванне) і недахопу амбіцый. З майго пункту гледжання, адукацыя натрапіла на сцяну і больш не можа ісці наперад, мы павінны змяніць напрамак. Я лічу, што актыўная ацэнка дае надзею на добры кірунак змен. Даследаванні, праведзеныя АЭСР сведчаць пра тое, што актыўная ацэнка – вельмі дзейсны метад паляпшэння вучнёўскіх вынікаў. Асабліва добрыя вынікі яна дае ў працы з вучнямі, якія маюць цяжкасці ў навучанні. Актыўная ацэнка эфектыўна рыхтуе маладых людзей вучыцца на працягу ўсяго жыцця, што ў сучасным свеце з'яўляецца неабходным навыкам. Вось чаму АЭСР рэкамендуе настаўнікам падчас працы з вучнямі выкарыстоўваць менавіта актыўную ацэнку.

### Элементы актыўнай ацэнкі

Пры актыўнай ацэнцы настаўнік:

- *Вызначае мэты ўрока і фармуліруе іх так, каб яны былі зразумелымі для вучняў.* Самае галоўнае – гэта ведаць, куды вы ідзяце і чаго хочаце дасягнуць. Перад планаваннем заняткаў настаўнік вызначае, якія мэты ён хоча дасягнуць разам з вучнямі падчас заняткаў. Ён вызначае, чаму ён хоча навучыць менавіта гэтаму матэрыялу і *як* гэта можна зрабіць найлепш. Часта мэты, якія ставіць сабе настаўнік, могуць быць незразумелымі для вучняў. Таму настаўнік павінен сфармуляваць гэтыя мэты так, каб іх мог зразумець кожны. Напрыканцы ўрока вучні з настаўнікам правяраюць, ці дасягнулі яны пастаўленых мэт.

Праца над мэтамі складаецца з трох этапаў: спачатку, яшчэ перад заняткамі, настаўнік вызначае, чаго ён хоча дасягнуць. Потым настаўнік прадстаўляе мэты ўрока вучням або выпрацоўвае іх разам з імі. Вучні ведаюць, што і як яны будуць вучыць. Пасля ўрока навучэнцы вызначаюць, пра што яны даведаліся.

- *Дамаўляецца з вучнямі аб крытэрыях ацэнкі* – мы ўжо разам выпрацавалі сумесныя мэты ўрока, ведаем, куды ідзем і чаго хочам разам дасягнуць. Цяпер разам з вучнямі мы павінны вызначыць, на што будзем звяртаць увагу пры ацэнцы. Ідэя ў тым, каб дакладна акрэсліць элементы, якія пакажуць як настаўніку, так і вучню, у якой меры атрымалася дасягнуць мэты ўрока.

Крытэрыі дапамагаюць вучням падрыхтавацца да кантрольных і падказваюць, як яны павінны выканаць працу, каб дасягнуць мэт, вызначаных настаўнікам. Настаўнік паслядоўна ацэньвае толькі тое, што было агаворана раней.

- *Усведамляе адрозненні паміж актыўнай і падсумоўваючай ацэнкамі.* Падсумоўваючая ацэнка мае важнае значэнне для абагульнення ведаў, набытых вучнем, і звычайна абмяжоўваецца адзнакай. Актыўная ацэнка мае на мэце дапамагчы вучню зразумець, што ён зрабіў так, а што не так, і як ён можа палепшыць сваю працу. Пры актыўнай ацэнцы вучні рэдка атрымліваюць адзнакі, а нашмат часцей – зваротную інфармацыю ад настаўніка, сяброў-студэнтаў ці аднакласнікаў.

- *Стварае атмасферу, якая спрыяе навучанню.* Пры дапамозе актыўнай ацэнкі, а асабліва пры стварэнні бяспечнай, спрыяльнай для навучання атмасферы, можна вельмі дапамагчы вучням. Але вучні павінны ўдзельнічаць у гэтым працэсе з самага пачатку. Варта знайсці час на класную дыскусію пра тое, як вучні вучацца і што ім у гэтым дапамагае. У выніку ў іх павышаецца самаацэнка, з'яўляецца зацікаўленасць і самастойнасць, здольнасць да супрацоўніцтва і свядомае стаўленне да навучальнага працэсу.

Вопыт паказвае, што навучэнцы і іх бацькі звычайна непакояцца з-за меншай колькасці адзнак. Гэта азначае, што вы павінны працаваць і з вучнямі, і з іх бацькамі. Бацькі, якія разумеюць, на чым палягае актыўная ацэнка, пераўтвараюцца ў саюзнікаў сваіх дзяцей і адначасова – у памочнікаў настаўнікаў.

- *Ведае, як сфармуляваць ключавыя пытанні.* Ключавыя пытанні скіроўваюць вучняў да мыслення. Дзякуючы добрай фармуліроўцы, яны паказваюць навучэнцам больш шырокі кантэкст праблемы, заахвочваюць да пошуку адказаў і больш актыўнага ўдзелу ў працэсе навучання.

- *Валодае метадамі задавання пытанняў*. У актыўнай ацэнцы задаванне пытанняў заключаецца ў інтэграцыі ўсіх вучняў у пошук рашэння вызначанай настаўнікам праблемы. З гэтай мэтай настаўнік падаўжае час чакання адказу вучня, адрасуе пытанні ўсім вучням, а не толькі тым, хто цягне руку; прапаноўвае шукаць адказы на пытанні ў парах і не карае за няправільныя адказы.

- *Эфектыўна прымяняе метад зваротнай сувязі*. Зваротная сувязь з'яўляецца ключавым кампанентам актыўнай ацэнкі. Замест адзнакі настаўнік дае вучню каментар яго працы. Добры водгук – гэта сапраўднае мастацтва; ён заўсёды павінен уключаць чатыры элементы: падкрэсліванне і пахвала станоўчых бакоў вучнёўскай працы, адзначэнне таго, што павінна быць выпраўлена, над чым трэба папрацаваць дадаткова; падказкі, як гэта можна зрабіць і парады, у якім напрамку вучань павінен працаваць далей. **Зваротная сувязь павінна быць цесна звязана з раней вызначанымі крытэрыямі ацэнкі.**

- *Уводзіць і практыкуе метад узаема- і самаацэнкі*. Вучні – на аснове вызначаных крытэрыяў ацэнкі – праглядаюць працы адзін аднаго і даюць парады па іх паляпшэнні. Гэта мае дваякае значэнне: з аднаго боку, вучань добра разумее таварыша, чыю працу правярае, таму што сам толькі што вырашаў тую ж задачу, а з другога боку – вучыцца ад яго.

Калі вучань зможа сам ацаніць, як шмат ён даведаўся і што яшчэ неабходна зрабіць, каб дасягнуць жаданай мэты, то гэта дапаможа яму ў працэсе навучання і зробіць яго актыўным удзельнікам гэтага працэсу.

Самаацэнка дазваляе навучэнцам знайсці адказы на пытанні: што я ўжо ведаю? Над чым яшчэ павінен папрацаваць? Што варта змяніць у сваім спосабе навучання? Якія рашэнні я мушу прыняць у будучыні?

## Перавагі і недахопы актыўнай ацэнкі

Актыўная ацэнка з'яўляецца часткай настаўніцкай інтуіцыі. Шмат хто з настаўнікаў, якія з намі супрацоўнічаюць, заўважаюць, што выкарыстоўвалі некаторыя элементы актыўнай ацэнкі ў сваёй практыцы і раней. Тым не менш, яны прызнаюць, што толькі сістэматычнае выкарыстанне цэласнага падыходу прыносіць жаданыя вынікі. У той жа час актыўная ацэнка цалкам змяняе стыль выкладання і, такім чынам, атмасферу ў класе.

Я перакананая, што актыўная ацэнка можа дапамагчы і настаўнікам і вучням. Я рэкамендую яе ўсім настаўнікам, якія шукаюць магчымасці ўдасканальвання працэсу навучання, хоць я і ўсведамляю ўсе цяжкасці, дадатковую нагрузку і працаёмкасць гэтай задачы. Ніжэй пададзены спіс цяжкасцей, згаданых ўдзельнікамі першага выпуску інтэрнэт-курса:

*Падрыхтоўка водгукаў для зваротнай сувязі займае шмат часу.* "Нядаўна я ўпершыню напісала доўгія каментары да самастойных прац маіх вучняў. Гэта заняло ў мяне шмат часу. Мне яшчэ цяжка вызначыць, наколькі мае водгукі карысныя вучням для працы. Аднак, я бачу, што яны іх чыталі, таму добра ведаюць, што ім трэба палепшыць" (Люцына Паўлік, настаўніца гісторыі).

*Працаёмкасць падрыхтоўкі да ўрока* (мэты, крытэрыі ацэнкі, ключавыя пытанні). "Увядзенне прынцыпова новага спосабу ацэнкі патрабуе шмат працы і намаганняў. Шмат часу займае выпрацоўка новых навыкаў у настаўнікаў, а да гэтага ж трэба прывучыць і вучняў. Такім чынам, напачатку памылак не пазбегчы, а на ўроку не хапае часу, каб здзейсніць усе яго элементы" (Марта Вердак-Руж, настаўніца гісторыі і геаграфіі).

*Фармуляванне ключавых пытанняў.* "Некалі мне падавалася, што, калі вучні не адказваюць на нейкае пытанне, можна задаць іншае, падказаць ім правільны адказ ці проста адказаць за іх. Цяпер я распрацоўваю пытанні перад урокам, пішу канспекты заняткаў, пазначаю добрыя пытанні, а няўдалыя выкрэсліваю. Зараз я бачу, які вялікі ўплыў маюць пытанні на актыўнасць вучняў. Да мяне "дайшло", што навучэнцы былі неактыўнымі таму, што мае пытанні былі кепскімі. У наступным годзе я маю намер

папрацаваць над пытаннямі асабліва старанна» (Ганна Сташак, настаўніца нямецкай мовы).

*Задаванне пытанняў займае шмат часу*. “Аднойчы я прынесла на заняткі пясочны гадзіннік майго сына, які адмяраў 55 секунд. Вучням было вельмі весела, а я толькі тады ўсвядоміла, як шмат гэта часу. Цяпер, калі я задаю пытанні ў класе, я чакаю адказу значна даўжэй, чым раней” (Рэната Хмялеўска, настаўніца біялогіі і камп’ютарных навук).

*Скарачэнне колькасці адзнак.* “Бацькі, а таксама і вучні не могуць так хутка змяніць свой падыход. Я казала пра скарачэнне колькасці адзнак, пра давер да выкладчыка пры іх выстаўленні, але ж бацькі разгарнулі бурную дыскусію пра выніковыя адзнакі за семестр” (Люцына Паўлік, настаўніца гісторыі).

*Схіленне бацькоў і вучняў да актыўнай ацэнкі.* “Трэба шмат часу, каб змяніць свядомасць вучняў. Але змены ў мысленні навучэнцаў залежаць ад змен у мысленні бацькоў. І менавіта з гэтага трэба пачынаць працу з АА” (Анэта Маеўска, настаўніца нямецкай мовы).

*Прывіванне вучням навыкаў узаема- і самаацэнкі.* “Я заўважыла, што выкарыстанне метаду ўзаемаацэнкі патрабуе значных намаганняў з боку настаўніка. Вучняў трэба падрыхтаваць да пераадолення псіхалагічных бар’ераў (напрыклад, страх перад рэакцыяй таварышаў), а гэта займае шмат часу і вымагае цярпення” (Івона Вуйлаў, настаўніца фізікі, англійскай мовы і інфарматыкі).

Найлепшым рэзюмэ гэтых кароткіх уводзінаў у актыўную ацэнку будуць словы Івоны Тарнагурскай-Азембла, настаўніцы пачатковых класаў з Легніцы: «Я рада, што мы займаемся праблемай ацэнкі, думаю, што гэта адзін з самых вялікіх клопатаў сучаснай школы. Дзеці вучацца дзеля адзнак, а не для сябе. Я адчула гэта на сваім досведзе – тое, што я вывучала дзеля адзнак, я зусім не памятаю. У адрозненне ад таго матэрыялу, па якім я прайшлася грунтоўна, і які дагэтуль памятаю выдатна. У працы з маленькімі дзецьмі я стараюся давесці ім, што яны вучацца толькі для сябе, а не для мяне і бацькоў. Гэта вельмі цяжка, асабліва ўлічваючы тое, што часта менавіта бацькі падштурхоўваюць дзяцей працаваць “на адзнаку”. Менавіта яны, чытаючы мае зваротныя водгукі, дамагаюцца выстаўлення адзнакі».

Падбадзёрвае тое, што актыўная ацэнка робіцца ўсё больш папулярнай. Яна павінна стаць эталонам ацэнкі ва ўсіх школах. Калі мы пачнем выкарыстоўваць гэтую ацэнку на ўсіх узроўнях адукацыі, магчыма, з часам знікне “змаганне за адзнакі”, і навука будзе свядомым выбарам, і пачне прыносіць задавальненне. Школы, пазбаўленыя негатыўных эмоцый, якія нясуць з сабой адзнакі, стануць прыцягальнымі, цікавымі і спрыяльнымі для дзіцячага развіцця. Няўжо ж гэта ўсяго толькі выдумкі і ўтопія?



# Дзесяць правілаў актыўнай ацэнкі

*Данута Стэрна*

**Актыўная ацэнка ў дапамогу навучанню:**

1. Цесна звязаная з эфектыўным планаваннем.
2. Засяроджаная на тым, як навучэнцы вучацца.
3. Адыгрывае важную ролю на працягу ўсяго навучальнага працэсу ад планавання да ацэнкі эфектыўнасці.
4. З'яўляецца адным з ключавых дыдактычных навыкаў.
5. Мае эмацыйнае ўздзеянне.
6. Уплывае на матывацыю навучэнца.
7. Скіроўвае ўвагу на крытэрыі поспеху (на што я буду звяртаць увагу?) ужо на этапе планавання.
8. Дае навучэнцам канструктыўныя парады, як яны маглі б палепшыць свае вынікі і развівацца далей.
9. Уплывае на самаацэнку.
10. Суадносіцца з усімі катэгорыямі дасягненняў.

**Правіла 1.** Актыўная ацэнка павінна быць цесна звязаная з добрым планаваннем працэсу навучання і асабістага развіцця.

Пры такім планаванні настаўнік прымае да ўвагі інфармацыю аб прагрэсе навучэнцаў і ацэнку ўзроўню дасягнення мэт. Настаўнік

гнутка рэагуе і змяняе план у залежнасці ад атрыманай інфармацыі аб ходзе вучнёўскай працы. Вучні ведаюць пра гэты план, мэты і крытэрыі, па якіх будзе ацэньвацца іх праца. Задача настаўніка заключаецца ў тым, каб распрацаваць такія спосабы інфармавання вучняў, якія б дазволілі ім зразумець пастаўленыя перад імі мэты і задачы. Акрамя таго, настаўнік мусіць прадугледзець, як вучні будуць атрымліваць водгукі на сваю працу, якая будзе іх роля ў праверцы ўласных дасягненняў і на якую дапамогу яны могуць разлічваць у далейшым навучанні.

**Правіла 2.** Актыўная ацэнка засяроджваецца на тым, як навучэнцы вучацца.

Вучні ўсведамляюць не толькі тое, *чаму* яны вучацца, але і тое, *як* яны вучацца. І настаўнік, і навучэнцы канцэнтруюцца на самім працэсе, а не толькі на канчатковым выніку.

**Правіла 3.** Актыўная ацэнка адыгрывае важную ролю на працягу ўсяго навучальнага працэсу – ад планавання да ацэнкі дасягненняў.

Падчас выканання задач і адказаў на пытанні настаўніка навучэнцы дэманструюць, якім чынам яны думаюць, якія маюць навыкі, і чаму ўжо навучыліся. Настаўнік назірае за працай вучняў, ацэньвае іх прагрэс і на гэтай аснове  плануе далейшую працу. Гэты працэс з'яўляецца неад'емнай часткай штодзённай працы на ўроках, скіроўвае настаўнікаў і навучэнцаў да рэфлексіі, дыялогу і прыняцця далейшых рашэнняў.

**Правіла 4.** Актыўная ацэнка з'яўляецца адным з ключавых дыдактычных навыкаў.

Настаўнік, які выкарыстоўвае сістэму актыўнай ацэнкі, умее планаваць, назіраць за працэсам навучання, аналізаваць і тлумачыць атрыманую інфармацыю аб працэсе і яго выніках, карыстацца зваротнай сувяззю і перадаваць вучням тую частку сваёй ацэнкі, якая мае значэнне для іх далейшага развіцця. Настаўнік дапамагае і вучыць ацэньваць саміх сябе. У рамках падрыхтоўкі да прафесіі і ўдасканалення трэба дапамагаць настаўнікам самім развіваць гэтыя навыкі.

**Правіла 5.** Актыўная ацэнка павінна быць канструктыўнай і патрабуе ад настаўніка шмат такту, бо, як кожная ацэнка, яна аказвае моцнае эмацыйнае ўздзеянне.

Настаўнік  усведамляе, якое ўздзеянне аказваюць яго каментарыі, ацэнкі і меркаванні на навучэнца, яго веру ва ўласныя сілы і на яго

зацікаўленасць вучобай. Водгукі на вучнёўскую працу мусяць быць максімальна канструктыўнымі і тычыцца толькі выніку працы, а не самога чалавека.

**Правіла 6.** Актыўная ацэнка павінна матываваць вучняў да навучання.

Ацэнка павінна быць засяроджанай на поспехах і дасягненнях, а не на адсутнасці прагрэсу, стымуляваць вучняў да вучобы. Параўнанне вынікаў асобных навучэнцаў з дасягненнямі іх калегаў, а таксама стварэнне разнастайных рэйтынгаў не матывуе, а часта і перашкаджае навучанню.

**Ацэнка можа заахвоціць да вучобы, калі яна абараняе самастойнасць навучэнца, забяспечвае канструктыўную зваротную сувязь, дае магчымасць выбару і спрашчае кіраванне ўласным навучаннем.**

**Правіла 7.** Актыўная ацэнка скіроўвае ўвагу на крытэрыі поспеху (на што я буду звяртаць увагу?) ужо на этапе планавання.

Каб навучанне было больш эфектыўным, настаўнік разам з навучэнцамі вызначаюць, чаго і якім чынам яны жадаюць дасягнуць. Вучні маюць уплыў на выбар мэт і прыняцце крытэрыяў поспеху. Крытэрыі поспеху павінны быць зразумелымі для вучняў, каб яны таксама маглі выкарыстоўваць іх для ўзаема- і самаацэнкі.

**Правіла 8.** Навучэнцы атрымліваюць канструктыўныя парады, як яны маглі б палепшыць свае вынікі і развівацца далей.

Вучням патрэбна інфармацыя і парады, каб яны маглі планаваць свае наступныя крокі ў працэсе навучання. Настаўнік паказвае моцныя бакі вучня і дае парады, як іх развіваць; выразна і канструктыўна паведамляе пра слабыя бакі і пра тое, як з імі змагацца, а таксама дае вучням магчымасць удасканальваць сваю працу.

**Правіла 9.** Актыўная ацэнка павінна развіваць вучнёўскую здольнасць да самаацэнкі, тым самым дапамагаючы яму самастойна кіраваць уласным навучаннем.

Самастойны вучань ці студэнт умее кіраваць сваім навучальным працэсам: набываць новыя веды і ўменні, задумвацца пра тое, як ён што робіць і чаго дасягае, і планаваць далейшыя крокі па паляпшэнні сваіх вынікаў. Дарога да самастойнасці праходзіць праз развіццё здольнасці самаацэнкі. Настаўнік заахвочвае да яе і фарміруе ў навучэнцаў адпаведныя навыкі.

**Правіла 10.** Актыўная ацэнка суадносіцца з усімі катэгорыямі вучнёўскіх дасягненняў.

**Актыўную ацэнку можна прымяняць ва ўсіх абласцях, дзе ёсць навучанне. Яе мэтай павінна быць імкненне даць кожнаму вучню магчымасці максімальна выкарыстаць свой патэнцыял і дасягнуць высокіх паказчыкаў. Настаўнік адзначае і прызнае дасягненні навучэнцаў.**

Гэтыя правілы былі распрацаваны на аснове матэрыялаў англійскай Групы рэфармавання ацэнкі (*The Assessment Reform Group, 2001*).

# Бацькам
# пра актыўную ацэнку

***Данута Стэрна***

Хачу заахвоціць вас, шаноўныя бацькі, да актыўнай ацэнкі (АА). Мая задача цяжкая па дзвюм прычынам:

- сама назва падманлівая – стварае ілюзію, што гаворка ідзе толькі пра адзнаку;
- шмат хто з вас ужо даўно скончыў школу, і вярнуць туды думкі будзе няпроста.

Для мяне актыўная ацэнка – гэта праверка папярэдніх прынцыпаў навучання, падвядзенне высноў: калі чалавек эфектыўна вучыцца, што яму дапамагае і як гэтым скарыстацца? Прашу вас прыгадаць часы, калі вы самі вучыліся.

**Першы крок**

Настаўнік матэматыкі просіць вас знайсці найменшае агульнае кратнае для лікаў 33 і 121, а пасля для 342 і 521. Ён кажа, што трэба раскласці лікі на простыя множнікі. Дапусцім, вы ведаеце, пра што гаворка, і працуеце над заданнем. Што вы адчуваеце?

Мяркую, што большасць з вас спытае: “Навошта мы гэта робім?”

Маеце рацыю: складана выконваць заданне, калі не ведаеш мэты. Таму АА патрабуе, каб настаўнік агучыў вучням мэту ўрока, пры гэтым на зразумелай ім мове. У дадзеным прыкладзе мэтай навучання было складанне звычайных дробаў, а праз гэта – пошук агульнага назоўніка двух дробаў.

А цяпер уявіце, што настаўнік прапануе вучням такую мэту: “Мы хочам навучыцца складаць дробы 5/33 і 4/121”. Далей тлумачыць, што мы шукаем агульны назоўнік для 33 і 121 і таму вучымся знаходзіць найменшае агульнае кратнае. Хутчэй за ўсё, у такім выпадку вы б нерваваліся значна менш.

Выснова: трэба даваць вучням мэты ўрока на зразумелай для іх мове!

### Другі крок

Прыгадайце сваю кантрольную па геаграфіі. Вы пытаеце настаўніка, якому матэрыялу яна будзе прысвечана. Які вы атрымліваеце адказ? На жаль, у большасці выпадках ён гучыць так: “Усяму, што праходзілі на ўроках”. Вас гэта задавальняе? НЕ, бо напэўна ж вы хацелі б ведаць: кантрольная будзе датычыць рэк, ці гарадоў, ці можа – прыродных рэсурсаў?

Атрымаць канкрэтную інфармацыю ў такой сітуацыі магчыма. У актыўнай ацэнцы настаўнік да кожнага ўрока вызначае так званае НаШтоБуЗУ – На Што Буду Звяртаць Увагу (вясёлае слова НаШтоБуЗУ дзеці ўспрымаюць лепш, чым афіцыйны выраз “крытэрыі ацэнкі”). Паверце, гэта магчыма, але патрабуе ад настаўніка вялікай дысцыпліны, бо ён абяцае, што будзе трымацца ўмовы і фактычна будзе правяраць толькі тое, пра што абвясціў.

У актыўнай ацэнцы мы інфармуем вучняў, што будзем ацэньваць.

Вучань можа спраўдзіць з ліста НаШтоБуЗУ, ці добра ён падрыхтаваўся да праверкі, ці слушна скарыстаўся ўрокам. Напэўна, шаноўныя бацькі, вы цяпер зайздросціце вучню, які займаецца паводле метаду АА, бо і самі хацелі б мець ад свайго шэфа канкрэтныя ўказанні адносна вашых заданняў.

### Трэці крок

Вучні (вашыя дзеці) ужо ведаюць, што і для чаго будуць вучыць і што ў іх праверуць. Але як іх заахвоціць да навучання? Гэта цяжкая задача для настаўніка. Столькі цікавых рэчаў на свеце, а тут кажуць шукаць найменшае агульнае кратнае нейкіх лікаў… Нуда!

Падумайце, як бы вы заахвоцілі дзяцей да такога задання?

У матэматыцы існуе паняцце дасканалага ліку.

Дасканалы лік – натуральны лік, роўны суме ўсіх сваіх уласных дзельнікаў (г. зн. меншых за гэты лік). Найменшы дасканалы лік – 6, бо 6 = 3 + 2 + 1.

Настаўнік можа запытаць вучняў, які наступны лік пасля 6 – дасканалы? Наступны – 28 (28 = 14 + 7 + 4 + 2 + 1), а далей гэта 496, 8128, 33550336, 8589869056 і 137438691328.

На ўроку па раскладанні ліку на простыя множнікі можна запытаць вучняў: ці з’яўляецца нумар іх дома дасканалай лічбай? Такое пытанне (у АА яно называецца ключавым) мае ўсе шанцы заінтрыгаваць вучняў. Можна шукаць дасканалыя лікі і ў іншых месцах і з гэтай нагоды вучыцца раскладанню на множнікі.

А далей можна перайсці да пошуку... найменшага агульнага кратнага, а пасля да складання дробаў.

## Чацвёрты крок

Дапусцім, што настаўнік ужо зацікавіў нас, задаўшы ключавое пытанне. Аднак як тут вытрымаць усе 45 хвілін урока? Магчыма, дасканалыя лікі – гэта цікава, але раскладанне на множнікі?! Значна менш. Няўжо мусім увесь час толькі рашаць задачы і не кантактаваць з іншымі?

Вядома ж не! У актыўнай ацэнцы вялікую ролю граюць пытанні, гэтак жа задаваныя вучнямі настаўніку, як і тыя, з якімі ён звяртаецца да вучняў. Важна, каб вучань меў час паразважаць над адказам, каб абмеркаваў яго з сябрамі ў класе, каб не пачуваўся пры адказе вырваным з кантэксту і адразу ацэненым. Настаўнік АА імкнецца, каб усе вучні былі ўключаны ў змест ўрока і ўзаемна дапамагалі і вучыліся адно ад аднаго.

Ну, нейкую казку Вы нам тут прапануеце! У школу трэба хадзіць і трэба вучыцца, у нашыя часы мы вучыліся і было добра.

Ну, не ўсё было добра. Прыгадайце, як вы трэсліся перад урокам матэматыкі і гісторыі. У некаторых нават рэгулярна балеў жывот перад тымі ўрокамі.

Вох, можа так яно і было, але мы вывучыліся і выраслі ў прыстойных грамадзян, а зараз...

Але хіба не аддалі б вы перавагу навучанню без боляў у жываце, з цікавасцю да прадмета не толькі ў час кантрольных – а і на ўсё жыццё?

Шмат людзей ва ўсім свеце шукаюць, як лепш і эфектыўней вучыць. Выкарыстоўваюцца не толькі вынікі даследаванняў, але доследы над мозгам чалавека, які вучыцца. Высновы перакладаюцца на мову практычных рэкамендацый і выкарыстоўваюцца, напрыклад, у... актыўнай ацэнцы.

## Пяты крок

Пра што вы пытаеце ў сваіх дзяцей, калі тыя прыходзяць са школы? Пра што пыталі ў вас бацькі?

– Што ты атрымаў? Што ты атрымала?

– А не магло быць больш?

Вох, не любілі вы гэтага пытання, асабліва тады, калі не было чым пахваліцца. Але з вашых цяперашніх паводзін так не скажаш.

Школа танчыць вакол адзнакі… Настаўнікі часта кажуць, што нізкі бал матывуе вучня да навучання. Прыгадайце, ці любілі вы прадмет, па якім атрымлівалі кепскія адзнакі?

«Кавалевіч, табе як заўсёды толькі "тры з мінусам"!» Матывуе?

"Але чаму толькі тры, што я зрабіў кепска, як павінна быць добра, няўжо ў маёй працы няма нічога добрага?"

Адзнака не дае вучню ніякай інфармацыі, апрача той, якая змяшчае яго ў рэйтынгу дасягненняў класа. Актыўная ацэнка раіць пашырыць паняцце "адзнака" да "ацэнкі, якая дапамагае вучыцца". Настаўнік замест балаў перадае вучню інфармацыю: што ён зрабіў добра, што кепска, як яму выправіць сваю працу і што вучань павінен зрабіць далей. Такім чынам настаўнік выкарыстоўвае працу вучня, каб удасканаліць працэс яго навучання.

Такая зваротная інфармацыя можа быць выкарыстана і бацькамі, каб дапамагчы дзіцяці ў яго навучанні.

Такім чынам, бацькі, замест таго, каб пытацца ў дзіцяці пра адзнаку, павінны спытаць: "Чаму ты сёння навучылася? Чаму ты сёння навучыўся?"

Таксама спытайце ў свайго дзіцяці, навошта яно ходзіць у школу. Пабачыце, як яно здзівіцца. Магчыма адкажа – для таго, каб вучыцца. Тады запытайцеся ў яго, чаму яно навучылася за апошні тыдзень. Не бяруся спрагназаваць яго адказ. А паколькі вашае дзіця праводзіць у школе большасць свайго часу, добра было б, каб яно рабіла гэта з плёнам, не кажу ўжо пра тое, што ў школе яго павінны цаніць, а не крытыкаваць.

Ці здаралася, што вашае дзіця тыдзень хварэла і было з вамі дома? Ці вучылі вы яго тады? Напэўна заўважылі, што не гарбелі з дзіцём над урокамі па 7 гадзін штодня, аднак здолелі засвоіць матэрыял.

Так, на жаль, дзеці аддаюць шмат часу школе. Што праўда, яны пры гэтым сацыяльна развіваюцца і гэта трэба цаніць, але прызнайце, што час урока павінен быць лепш выкарыстаны на навучанне. Часам мне падаецца, што ў школе вучань патрапляе выключна ў працэс ацэнкі, а не навучання.

Прасіце настаўніка, каб даваў вашаму дзіцяці зваротную інфармацыю. Не дамагайцеся адзнак, бо таму, хто вучыцца, яны не даюць ніякай карысці.

### Шосты крок

У школе няма супрацы. Як кажа прафесар Януш Чапіньскі – калі і ёсць, дык у заганнай форме, як спісванне.

Ці прыгадаеце вы са свайго дзяцінства супольную працу (апрача ўрокаў фізкультуры) ці працу паводле метаду праектаў? Калі так, то вам пашанцавала. Вучань у школе на ўроках самотны, у самоце выконвае зададзеныя настаўнікам практыкаванні і ацэньваецца індывідуальна.

Няма ніякай нагоды, каб у працэсе навучання вучань працаваў сам. Супольная дыскусія, пошук рашэнняў, вызначэнне адказу ў парах дае вучням пачуццё бяспекі, магчымасць вучыцца адно ў аднаго і практыку супрацы, такую важную ў дарослым жыцці.

Падтрымлівайце настаўнікаў, якія выкарыстоўваюць метад праектаў, часта прапануюць працу ў парах, вучаць узаемнай ацэнцы і дбаюць, каб вучні ўмелі супрацоўнічаць.

### Сёмы крок

Магчыма, вы некалі чулі пра сябе ці цяпер пра сваё дзіцё, што вы (яно) лянотнае і безадказнае. Ніводнае дзіця такім не нараджаецца і збольшага такім не з’яўляецца. Як яму быць адказным, калі яно не мае ўласнай свабоды! Мусіць хадзіць у школу, мусіць вучыцца таму, што ёсць у праграме, мусіць здаваць іспыты ды г. д.

Але ў школе ёсць месца, каб вучыцца адказнасці. Пры актыўнай ацэнцы настаўнікі дбаюць, каб вучні практыкавалі самаацэнку, вучаць, як гэта рабіць. Гэта спрыяе таму, што вучні бяруць на сябе адказнасць за працэс навучання. У жыцці гэта вельмі прыдасца.

### Восьмы крок

Ці лічыце вы, што школа вашага дзіцяці добра супрацоўнічае з бацькамі?

Як выглядае гэтая супраца, якой бы вы хацелі яе бачыць? Вы прыходзіце на бацькоўскі сход, атрымліваеце табель з адзнакамі свайго дзіцяці і просьбу скантактавацца з некаторымі настаўнікамі. Класны кіраўнік скардзіцца на дзяцей: агрэсіўныя, не вучацца належным чынам ды г. д. Часам класны кіраўнік плануе экскурсію, збірае грошы ў бацькоўскі камітэт…

Настаўнік, які ацэньвае актыўна, імкнецца да сапраўднай супрацы з бацькамі. Ён інфармуе іх пра поспехі дзіцяці, кансультуе, як з ім працаваць, плануе развіццё вучня разам з бацькамі. Такому настаўніку трэба давяраць і дапамагаць.

# Актыўная ацэнка – новая стратэгія навучання

***М. І. Запрудскі,***
*загадчык кафедры педагогікі*
*і філасофіі адукацыі АПА,*
*кандыдат педагагічных навук, дацэнт*

У любой дзейнасці чалавека неабходнымі яе элементамі з'яўляюцца кантроль і ацэнка. Менавіта яны выступаюць рэгулятарамі гэтай дзейнасці, даюць чалавеку інфармацыю аб тым, наколькі паспяхова ідзе працэс, якія існуюць складанасці. Гэта дазваляе ў выпадку неабходнасці карэкціраваць свае дзеянні. Кантрольна-ацэначная дзейнасць – гэта дзейнасць па кантролі і ацэнцы ходу і вынікаў таго або іншага працэсу. Кантроль разумеюць як працэс параўнання кантралюемага аб'екта, дзейнасці з эталонамі, нормамі, крытэрыямі. Ацэнка – гэта вуснае або пісьмовае выражэнне вынікаў кантролю.

Перадусім, звернемся да традыцыйнай практыкі кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў адукацыйным працэсе. У большасці яна характарызуецца наступным: адзіным кантралёрам і ацэншчыкам на ўроку з'яўляецца настаўнік, вучні і бацькі пазбаўлены адпаведных паўнамоцтваў; ацэньваюцца толькі вынікі навучання (тое, як ідзе працэс засваення ведаў застаецца па-за ўвагай); змест кантролю (што будзе ацэньваецца) часта засакрэчаны; на ўроках зашмат часу траціцца на кантроль (трэба ж выставіць адзнакі); прымяняецца толькі бальная або рэйтынгавая ацэнка; адзнакі іншы раз выкарыстоўваюцца як сродак уціску на вучняў.

Вынікамі такога кантролю з'яўляюцца шматлікія адмоўныя наступствы:

- застаецца мала часу на вывучэнне вучэбнага матэрыялу, адпрацоўку прадметных і агульнавучэбных уменняў і навыкаў; на кантакты настаўніка з вучнямі;
- дэфармуюцца пазнавальныя матывы (з засваення ведаў на атрыманне добрых адзнак);
- адзнакі часта становяцца прычынай пагаршэння адносін паміж настаўнікам і вучнямі; вучні адчуваюць псіхалагічны дыскамфорт, няўпэўненасць з-за таго, што настаўнік можа

выклікаць адказваць і можна атрымаць дрэнную адзнаку. Гэта правакуе спісванне, хлусню, крывадушша, можа стаць прычынай неўрозу;

- некаторыя вучні прывыкаюць да дрэнных адзнак, таму ў іх прытупляецца годнасць, яны становяцца азлобленымі, у іх зніжаецца ўзровень самаацэнкі;

- адной з прычын адставання ў вучобе з'яўляецца тое, што ў многіх вучняў не сфарміраваны ўменні самаацэнкі;

- непаспяховыя вучні адчуваюць немагчымасць дасягнуць большага і зусім перастаюць вучыцца, спадзяюцца, што нейкія балы ім паставяць (цяпер усе адзнакі станоўчыя). Гэта прыводзіць да ўтрыманства, вучні здымаюць з сябе адказнасць за вучобу, што потым выліваецца ў асабістыя і сацыяльныя праблемы і да т. п.

Між тым існуе іншая практыка кантрольна-ацэначнай дзейнасці – актыўная ацэнка (АА). Ёй можна даць наступнае азначэнне – гэта стратэгія навучання, у межах якой вучні маюць магчымасць пастаянна бачыць і разумець свае поспехі (і радавацца гэтаму), памылкі (і працаваць над імі); валодаць працэдурамі ацэнкі, кіраваць уласным навучаннем. Да ацэначнай дзейнасці далучаюцца бацькі вучняў.

Прымяненне АА стварае атмасферу, якая спрыяе навучанню. У гэтай атмасферы ў вучняў узмацняецца адчуванне ўласнай значнасці, павышаецца іх пазнавальная матывацыя і адказнаць за вучэбныя поспехі і няўдачы, павялічваецца ўзровень самастойнасці, ёсць умовы для супрацоўніцтва, вучні лепш разумеюць працэс навучання. Прадметам АА з'яўляюцца не толькі кагнітыўныя і творчыя вынікі, але і сама дзейнасць па іх атрыманні.

Стратэгія АА мае шырокае распаўсюджанне ў многіх краінах. На карысць яе сведчыць, напрыклад, той факт, што вучні Фінляндыі паказалі найлепшыя вынікі міжнароднага даследавання вучэбных дасягненняў вучняў PISA і, менавіта, настаўнікі гэтай краіны шырока выкарыстоўваюць АА ў сваёй педагагічнай дзейнасці.

Апошнім часам многія айчынныя настаўнікі, якія былі ўдзельнікамі трэнінгаў, што праводзілі трэнеры з Варшавы, або прайшлі навучанне на аўтарскіх курсах аўтара гэтага артыкула, паспяхова выкарыстоўваюць актыўную ацэнку. Назавем толькі некалькі імёнаў: Віктар Герцык, Юры Клімовіч, Алена Сарока, Галіна Сухава,

Ніка Цішчанка, Эла Якубоўская і іншыя. Многія сродкі АА на сваіх ўроках прымяняюць настаўнікі пачатковых класаў, якія карыстаюцца тэхналогіяй калектыўна-размеркаванай дзейнасці.

**Нашы польскія калегі прытрымліваюцца наступных правілаў арганізацыі навучання з АА:**

1. Пры планаванні ўрока я заўсёды вызначаю крытэрыі ацэнкі яго выніковасці.
2. Я заўсёды знаёмлю вучняў з гэтымі крытэрыямі.
3. Я даю вучням магчымасць зваротнай сувязі.
4. Я вучу вучняў адказнасці за іх навучанне.
5. Я прадстаўляю вучням магчымасці ацэнкі і самаацэнкі.
6. Я ацэньваю работу вучняў толькі пасля іх самаацэнкі.
7. Я даю навучэнцам магчымасць палепшыць сваю работу і паказваю, як гэта можна зрабіць.
8. Я веру ў магчымасці вучняў і дэманструю ім свае спадзяванні, што яны могуць дасягнуць большага.
9. Я атрымліваю ад вучняў інфармацыю аб тым, ці добра я іх вучу.
10. Я паведамляю бацькам аб прагрэсе іх дзіцяці, узбройваю іх крытэрыямі ацэнкі.
11. Я далучаю бацькоў да кантрольна-ацэначнай дзейнасці.
12. Я ствараю атмасферу супрацоўніцтва, а не спаборніцтва.

**Вучні атрымліваюць ад педагога адпаведны інструктаж:**

- Мы будзем на пачатку кожнага ўрока дамаўляцца аб мэтах работы, каб вы ведалі, што і навошта вы будзеце вывучаць, а таксама, каб па заканчэнні ўрока, вы самі маглі ацаніць, наколькі вашыя мэты дасягнуты.
- Заўсёды буду вас знаёміць з крытэрыямі ацэнкі – указваць на тое, што будзе ацэньвацца. Затым буду ацэньваць толькі тое, што вызначана загадзя.
- Я буду задаваць вам пытанні, каб вы самастойна знаходзілі адказы; буду ствараць праблемныя сітуацыі, вы будзеце бачыць у іх праблемы, якія мы разам будзем вырашаць. Вы будзеце самі праяўляць ініцыятыву, а не толькі падпарадкоўвацца маім указанням.
- Адзнакі вы будзеце атрымліваць не заўсёды. Часцей – мае каментарыі да вашых прац: што вы зрабілі добра, а над чым трэба папрацаваць. Гэтыя каментарыі вы будзеце атрымліваць вусна ці пісьмова. Вы будзеце або прымаць мае заўвагі і прапановы, або аргументавана аспрэчваць іх.
- Я буду пытацца ў вас аб тым, як вы жадаеце, каб вас вучылі і буду ўлічваць вашыя меркаванні.
- Я буду часта прасіць вас абмеркаваць вашыя адказы на мае пытанні ў парах.
- Буду старацца ставіць вам на пачатку занятку ключавое пытанне, на якое мы разам будзем шукаць адказ.
- Адзнакі вы будзеце атрымліваць у асноўным за праверачныя работы па выніках кожнага раздзела.
- Вы часта будзеце ацэньваць адзін аднаго, а таксама ставіць адзін аднаму пытанні, даваць парады.
- Вы таксама будзеце ацэньваць самі сябе і на гэтай аснове планаваць сваё далейшае развіццё.

**Пазіцыя вучня, калі настаўнік выкарыстоўвае актыўную ацэнку, характарызуецца наступным:**

- я ведаю навошта і чаму я павінен навучыцца;
- мне падабаецца, калі настаўнік размаўляе са мной аб маім прагрэсе і кожную хвіліну ведае, на якім этапе навучання я знаходжуся;
- я атрымліваю ад настаўніка інфармацыю аб тым, што мною зроблена добра, што я магу палепшыць, як я магу развівацца далей;
- я ажыццяўляю кантроль і ацэнку сваёй дзейнасці і яе вынікаў, што дае мне магчымасць працаваць над памылкамі і ўдасканальваць сваю дзейнасць;
- я выкарыстоўваю веды і ўменні маіх аднакласнікаў.




Ядром актыўнай ацэнкі з'яўляецца зваротная сувязь (ЗС). Гэта ўздзеянне вынікаў функцыянавання якой-небудзь сістэмы на характар гэтага функцыянавання.

Для школьнага ўрока і адукацыйнага працэсу ў цэлым, ЗС мае вельмі важнае значэнне, бо яна:

- забяспечвае якаснае планаванне (план, канспект, сцэнарый або тэхналагічная карта ўрока, якія ўключаюць ЗС – гэта аснова яго эфектыўнасці);
- стварае магчымасці для адсочвання працэсу навучання школьнікаў, бо задае для гэтага адпаведны інструментарый;
- сама з'яўляецца карысным для вучняў і важным дыдактычным уменнем: калі на ўроках паміж настаўнікам і вучнямі прысутнічае ЗС, то вучні авалодваюць адпаведнымі прыёмамі;
- аказвае на вучняў эмацыйнае ўздзеянне і служыць моцным матывучым фактарам: вучань радуецца свам поспехам і бачыць, над чым канкрэтна яму яшчэ трэба папрацаваць;

- дае вучням канструктыўныя рэкамендацыі па карэкцыі іх дзейнасці;
- фарміруе адэкватную самаацэнку вучняў.

Эфектыўнасць ЗС залежыць ад таго, як настаўнік яе арганізуе. Прывядзем прыклады ЗС, якая, хутчэй за ўсё, не з'яўляецца карыснай і пакажам, як яе можна палепшыць (табл. 1).

**Табліца 1. Прыклады няўдалай і ўдалай зваротнай сувязі.**

| Прыклады зваротнай сувязі | Сумненні, пытанні, якія могуць узнікнуць у вучня | Як палепшыць зваротную сувязь |
|---|---|---|
| Паспрабуй развіць сваю думку | Як гэта зрабіць? | Скажы, як зменіцца працэс, калі… |
| Падыдзі да тэмы больш дэталёва | Што гэта значыць? | Ты можаш расказаць пра будову… |
| Табе трэба быць больш старанным | Як? | Каб твая праца была больш якаснай, што варта было б зрабіць па-іншаму? |
| Ты вельмі добра распавядаў | У чым маё апавяданне добрае? | Выдатнае апавяданне: 1) ты прывёў вельмі пераканаўчы прыклад; 2)… |
| Добрая праца | У чым яна добрая? Можа быць у ёй ёсць нейкія хібы, калі яна не выдатная? Якія? | Паглядзі на крытэрыі. Якім крытэрыям твая работа адпавядае? |
| Звярні ўвагу на памылкі, якія я адзначыў | Мне на іх толькі паглядзець? | У тваей рабоце ёсць памылкі (паглядзі). Як ты думаеш, чым яны выкліканы? Што ты можаш зрабіць, каб ад іх пазбавіцца? |
| Сканцэнтруйся на тэме | Што гэта? | Звярні ўвагу ў параграфе на… Запішы галоўную думку кожнага абзаца |
| Малайчына! Істотны прагрэс! | У чым малайчына? У чым прагрэс? З якога часу? | Як ты думаеш, у чым за апошні месяц ты палепшыў свае вынікі? Дзякуючы чаму? |
| Табе трэба больш старацца | Я і так стараюся! | Табе трэба звярнуць увагу на… Паспрабуй зрабіць… |

Відавочна, што запісы ў правым слупку табліцы датычацца крытэрыяў, па якіх ацэньваецца работа вучня і яе вынікі. З дапамогай пытанняў і заўваг настаўнік прапануе вучню суаднесці сваю працу з прапанаванымі (ці вылучанымі сумесна) нормамі, патрабаваннямі. Заўвагі павінны быць канкрэтнымі. Яны павінны паказваць вучню, як яму далей вучыцца.

Для асэнсавання асаблівасцей кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў межах стратэгіі актыўнай ацэнкі параўнаем яе з традыцыйнай практыкай кантролю і ацэнкі (табл. 2).

**Табліца 2. Арганізацыя кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў рамках традыцыйнага і інавацыйнага навучання.**

| Пазіцыі для параўнання | Традыцыйная практыка КАДз | Актыўная ацэнка |
|---|---|---|
| Задачы кантролю | Высветліць ступень засваення вучэбнага матэрыялу і паставіць адзнакі | Ацаніць ход і вынікі пазнавальнай дзейнасці вучняў для яе развіцця |
| Аб'екты кантролю | Веды, уменні і навыкі | Вынікі навучання: веды, уменні і навыкі, паказчыкі развіцця, а таксама працэс навучання |
| Суб'екты кантролю | Настаўнік | Настаўнік, вучні, бацькі вучняў |
| Эталоны для ацэньвання | Патрабаванні вучэбнай праграмы | Патрабаванні вучэбнай праграмы, загадзя вызначаныя крытэрыі ацэнкі працы і яе вынікаў |
| Працэдура ацэнкі | Параўнанне вынікаў навучання з эталонам | Параўнанне хода і вынікаў дзейнасці вучняў не толькі з эталонамі, крытэрыямі, але і з пачатковым узроўнем навучанасці |
| Сродкі кантролю | Пытанні, заданні, кантрольныя работы, тэсты, залікі, экзамены | Пытанні, заданні, кантрольныя работы, тэсты, залікі, экзамены, рэфлексія |
| Фіксацыя вынікаў | Адзнакі, рэйтынг | Адзнакі, а таксама якасныя характарыстыкі, у якіх даецца характарыстыка адукацыйнага прырашчэння вучня, па загадзя вызначаных крытэрыях |

Для паспяховага выкарыстання АА і арганізацыі ЗС неабходны адпаведныя дыдактычныя сродкі: дыягнастычнае мэтавызначэнне, крытэрыі правільнага выканання заданняў і ходу працы над імі,

пытанні настаўніка да вучняў, убудаваны ў працэс навучання контроль і самакантроль, тэсты, каментарыі настаўніка да выкананых вучнямі заданняў; эталоны правільных адказаў, культурнагістарычныя аналагі, наглядны дапаможнік святлафор, рэфлексія і інш. Гэтыя сродкі падрабязна апісаны ў літаратуры [1, 2, 5 – 7].

Дзейнасць настаўніка ў межах стратэгіі актыўнай ацэнкі па забеспячэнні зваротнай сувязі ажыццяўляецца на трох этапах: планаванне ўрока, яго правядзенне і аналіз.

Паслядоўнасць працэдур праектавання эфектыўнага ўрока намі апрабавана і прадстаўлена ў кнізе [1]. Тут жа падкрэслім асаблівасці адпаведнай дзейнасці настаўніка, які арыентаваны на актыўную ацэнку:

- дыягнастычна фармулюе навучальную мэту з улікам узроўню навучанасці вучняў, патрабаванняў праграмы, зместу вучэбнага матэрыялу;
- прымае рашэнне аб тым, як мэта будзе даведзена да вучняў (запісвае мэту на іх мове);
- вызначае крытэрыі поспеху, якія напачатку ўрока паведамляюцца вучням;
- запісвае, на што будзе звяртаць увагу падчас работы вучняў і ў яе выніках;
- вызначае прагназуемы вынік кожнага этапу ўрока, напрыклад, якая будзе ступень матывацыі вучняў, якія “правілы гульні” яны прымуць, што вучні будуць ведаць, умець і г. д.;
- прадумвае і вырашае, якім чынам ён даведаецца і як даведаюцца самі вучні, што дасягнуты запланаваныя для этапу вынікі. Плануе карэктуючыя дзеянні, якія будуць праведзены, калі вынікі этапаў будуць дасягнуты не ўсімі вучнямі;
- вызначае, з дапамогай якіх сродкаў вучні даведаюцца і сам настаўнік будзе ведаць, як яны авалодалі матэрыялам урока;
- указвае, як будзе праведзена карэкцыйная работа, калі высветліцца, што ў вучняў ёсць прабелы ў авалоданні матэрыялам;
- вызначае, як будзе арганізавана самаацэнка таго, як вучні працавалі на ўроку, што вынеслі з урока;

- вызначае варыянты хатняга задання для розных вынікаў выходнага кантролю (заданне павінна быць скіравана на гэтыя вынікі);
- вызначае крытэрыі поспеху пры выканнні дамашніх заданняў для вучняў.

Ход урока з актыўнай ацэнкай таксама мае свае асаблівасці. На такім уроку настаўнік:

- імкнецца атрымаць інфармацыю ад вучняў аб тым, у якой ступені яны валодаюць апорнымі для новай тэмы ведамі і ўменнямі. Такую інфармацыю можна атрымаць, напрыклад, з дапамогай тэста, прыёмам "Святлафор", дыктоўкай (адказ двух-трох вучняў каля дошкі не дазваляе высветліць, як валодаюць матэрыялам астатнія вучні класа). Важна дапамагчы ім самім убачыць ступень валодання неабходнымі ведамі і ўменнямі. Высвятленне прабелаў дапамагае арганізаваць паўтарэнне, карэкцыйную работу, а таксама, магчыма, удакладніць тэму ўрока;
- высвятляе, як вучні дасведчаны ў новай тэме. Магчыма, школьнікі нешта ведаюць з тэлеперадач, даведаліся на занятках ва ўстановах дадатковай адукацыі, ад сваіх бацькоў. Калі даваць новы матэрыял без уліку іх суб'ектнага вопыту, то вучням будзе нецікавым тлумачэнне настаўніка;
- паведамляе вучням на іх мове мэту ўрока (магчыма, дзе гэта апраўдана, далучае вучняў да ўласнага самавызначэння, скіроўвае на свой вынік занятку). Мэту запісвае на дошцы або прапануе вучням запісаць яе ў сшытку;
- тлумачыць вучням крытэрыі поспеху, гаворыць, на што ён будзе звяртаць увагу ў індывідуальнай, парнай і групавой рабоце, у яе выніках;
- прадстаўляе вучням этапы ўрока, "рэперныя пункты", на якіх будзе кантроль (самакантроль, узаемакантроль), ацэнка (самацэнка, узаемная ацэнка) прамежкавых вынікаў;
- арганізуе вучэбна-пазнавальную дзейнасць вучняў, скіраваную на дасягненне пэўных вынікаў этапаў і мэты ўрока; арганізуе прамежкавы кантроль (сама-, узаемакантроль) і арганізуе адпаведную карэкцыйную работу;

- праводзіць выходны кантроль (самакантроль), а таксама карэкцыю прабелаў;
- прапануе вучням дыферэнцыяванае хатняе заданне, змест якога адпавядае поспехам і прабелам ў выкананні выходнага тэста; узбройвае іх крытэрыямі паспяховага выканання гэтага задання;
- арганізуе асэнсаванне вучнямі іх дзейнасці.

Пры ацэнцы настаўнікам праведзенага ўрока асноўным крытэрыем, на наш погляд, можа быць якасць зваротнай сувязі – ступені дасведчанасці суб’ектаў адукацыйнага працэсу аб ходзе, прамежкавых і канчатковых выніках вучэбнага занятку.

Вышэй прадстаўлена ў многім ідэальная мадэль планавання і правядзення ўрока, паколькі па многіх аб’ектыўных і суб’ектыўных прычынах далёка не заўсёды магчыма гэтую мадэль цалкам рэалізаваць на практыцы. Але ёсць пэўныя падставы, эфектыўны настаўніцкі вопыт, якія сведчаць, што дадзеная мадэль павінна быць арыенцірам для развіцця педагогамі сваёй прафесійнай дзейнасці.

Для таго, каб стымуляваць актыўнасць бацькоў у кантрольна-ацэначнай дзейнасці, ім могуць быць дадзены адпаведныя рэкамендацыі:

1. Кожны дзень цікаўцеся вучэбнымі поспехамі свайго дзіцяці. Пытайцеся ў яго: “Аб чым ты сёння даведаўся на ўроку, чаму навучыўся?”, а не “Якую ты сёння атрымаў адзнаку?”. Радуйцеся поспехам, не раздражняйцеся з-за кожнай няўдачы, памылкі, якую зрабіў сын або дачка.

2. Практыкуйце такую работу: прасіце дзіця яшчэ да чытання параграфа адказаць на пытанні, якімі параграф завяршаецца. Пры гэтым вучань будзе ведаць, на што звяртаць увагу пры чытанні тэксту, тым самым ствараюцца передумовы ўзнікнення ці ўзмацненя пазнавальнага інтарэсу.

3. Спытайце ў дзіцяці, на што настаўнік будзе звяртаць увагу пры праверцы хатняга задання, ці прапанаваў ён загадзя адпаведныя крытэрыі правільнага і поўнага выканання

задання. Папрасіце суаднесці выкананую работу з атрыманымі ад настаўніка крытэрыямі.

4 У першую чаргу звяртайце ўвагу на тое, што вучнем зроблена правільна, добра або выдатна (гэта надае яму больш упэўненасці ў сваіх сілах). Калі знойдуцца памылкі, то абмяркуйце разам, як можна выправіць работу.

5 Пры праверцы выкананага задання нацэльвайце дзіця не на бяздумны пераказ тэксту, а на тое, каб яно ўмела даказаць правільнасць адказу, прыводзіць адпаведныя прыклады. Часцей пытайцеся: “Чаму ты так думаеш?”, “Ці можна зрабіць па-іншаму?”, “На чым грунтуецца тваё перакананне, што ты правільна выканаў заданне, зразумеў змест тэксту, рашыў задачу” і інш.

6 Часцей звяртайцеся да ацэначных лістоў, партфоліа, калі з імі працуе вашае дзіця.

Прадстаўленыя матэрыялы носяць рэкамендацыйны характар. Выкарыстоўваць іх ці не, развіваць сваю дзейнасць у кірунку актыўнай ацэнкі, ці не – вырашае сам настаўнік. Але нельга пакінуць па-за ўвагай тое, што АА станоўча ўплывае на ўзроўні суб’ектнасці вучняў, ведаў і ўменняў, вучэбнай матывацыі і адказнасці.

**Літаратура**


1. Запрудский, Н. И. Современные школьные технологии-2 / Н. И. Запрудский. – Минск : Сэр-Вит, 2010. – 256 с.
2. Запрудскі, М. І. Як эфектыўна арганізоўваць самастойную пазнавальную дзейнасць вучняў / М. І. Запрудскі // Фізіка : праблемы выкладання, 2011. – № 5. – С. 12 – 18.
3. Методические рекомендации по совершенствованию качества образования / Инструктивно-методическое письмо Министерства образования // Настаўніцкая газета. – 2 ліп. – 2011 г.
4. Хуторской, А. В. Современная дидактика : учебник для вузов / А. В. Хуторской. – СПб : Питер, 2001. – 544 с.
5. Шакура, С. Д. Формирование контрольно-оценочных действий учащихся 1 – 6 классов в процессе учебной деятельности / С. Д. Шакура. – Минск, 2011. – С. 26.
6. Якубовская, Э. М. Домашний эксперимент учащихся / Э. М. Якубовская // Фізіка : праблемы выкладання, 2011. – № 5. – С. 23 – 27.
7. Sterna, D. Ocenianie kształtujące w praktyce / D. Sterna. – Warszawa, 2008. – 192 c.

# “Як зрабіць мэту ўрока дасягальнай: тэхналогія SMART”

***А. У. Радзевіч,***
*старшы выкладчык кафедры педагогікі і псіхалогіі дашкольнай і пачатковай адукацыі ДУА «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі»*

Каб урок стаў вынікам сумеснай дзейнасці настаўніка і вучня, прынёс жаданы вынік, кожнаму настаўніку неабходна ў пачатку ўрока сфармуляваць мэты ўрока зразумелай для вучня мовай, вызначыць крытэрыі і паказчыкі паспяховага дасягнення пастаўленых мэт, г. зн. дамагчыся адкрытасці і празрыстасці працэсу навучання. Вучань павінен разумець значнасць дасягнення мэты, бачыць, дзе ён зможа выкарыстаць веды ці ўменні, атрыманыя на ўроку. Мэты тлумачаць вучню, што ён вывучае, навошта працуе. Яны паляпшаюць зваротную сувязь паміж настаўнікам і класам, забяспечваюць асэнсаваны кантроль і самакантроль за вынікам дзейнасці. Мэты, сфармуляваныя зразумелай для вучня мовай, з’яўляюцца часткай актыўнай ацэнкі на ўроку.

У сучаснай школе набірае сілу кампетэнтнасны падыход. Вызначана цэлая сістэма кампетэнцый, якія ўяўляюць з сябе арыенціры ў працы настаўніка і навучэнцаў. Адной з ключавых кампетэнцый (І. Зімняя, А. Хутарской) вызначана кампетэнцыя мэтапастаноўкі. Рашэнне праблемы мэтапастаноўкі пачынаецца з уменння педагога фармуляваць мэты канкрэтнага ўрока. Выразна пастаўленыя мэты і задачы звязваюць урок у адзінае цэлае, бо яны вызначаюць жаданыя вынікі ўрока і кірунак далейшага развіцця. Важна, каб любая мэта была скіравана на канчатковы вынік, прадукт дзейнасці. Тады ёсць магчымасць яе дасягнуць. У мэтах урока сфармуляваны той ключавы вынік, да якога павінны імкнуцца настаўнікі і вучні. Калі мэта вызначана недакладна, ці настаўнік дрэнна ўяўляе шляхі і спосабы яе дасягнення, то ўрок будзе неэфектыўным.

У шматлікіх педагагічных публікацыях мэта трактуецца як вобраз выніку, які пажадана атрымаць да пэўнага моманту. У педагогіцы мэтапастаноўка – гэта працэс выяўлення мэт і задач суб’ектаў дзейнасці (настаўніка і вучня), іх прад’яўлення адзін аднаму, узгаднення і дасягнення. Пры пастаноўцы мэт неабходна ўлічваць,

з аднаго боку, нарматыўныя патрабаванні, узровень навучання і матывацыі навучэнцаў, узроўні іх развіцця і выхавання, тып і традыцыі школы, а з другога – рэальныя магчымасці дадзенага ўрока. Таму пастаноўка мэты ўрока – гэта не аднамомантны акт, а працэс, якім пачынаецца і заканчваецца планаванне.




Да гэтага часу ад педагогаў патрабуецца трыадзіная мэта, таму многія фармальна спрабуюць паказаць, чаму яны збіраюцца вучыць, што развіваць і выхоўваць. Стандартнасць патрабаванняў у фармулёўках прыводзіць да таго, што такая мэтапастаноўка становіцца глабальнай і няпэўнай. Расплывістасць і нявызначанасць спраектаваных настаўнікам мэт прыводзіць да неразумення іх настаўнікам і вучнямі. У планаванні мэт важныя два моманты: як ставіць мэты настаўнік пры падрыхтоўцы да ўрока і як ставіцца мэта на ўроку (ці ўдзельнічае ў гэтым працэсе вучань)? Некаторыя педагогі пры планаванні ўрокаў, фармулююць мэты, вызначаюць для сябе крытэрыі і паказчыкі якасці дасягнення пастаўленых мэт, вызначаюць сродкі іх дасягнення, але вучні не пасвечаны ў гэтыя “таямніцы”. Такія ўрокі з’яўляюцца малаэфектыўнымі. Паслядоўна выконваючы заданні настаўніка, вучні не разумеюць, навошта яны гэта робяць, да якіх вынікаў павінны прыйсці ў канцы ўрока, як ацаніць свае намаганні і атрыманы вынік.

Па словах Дануты Стэрны, выкладчыка матэматыкі з Варшавы, кожны настаўнік пры падрыхтоўцы да ўрока павінен адказаць на пытанні:

- Для чаго я выкладаю навучэнцам гэты матэрыял?
- Куды я рухаюся і чаго хачу дасягнуць?
- Што вучні ўжо ведаюць па гэтай тэме?
- Як прадставіць мэты ўрока вучням?

**Прыклад мэт урока**

**Навучанне грамаце, 1клас**

***Тэма.*** Гук [*р*], літары *Р, р.*
***Мэта:*** вывучыць новы гук [*р*] і літары *Р, р*, якія яго абазначаюць; вывучыць склады з дадзенымі літарамі, пачаць чытанне слоў з вывучанымі літарамі.
***Мэта ўрока мовай вучняў:*** у канцы ўрока вы зможаце вылучаць гук [*р*] у словах; даведаецеся, як гэты гук абазначаецца на пісьме; зможаце прачытаць склады і словы з літарай *Р, р.*

**Чалавек і свет, 2 клас**

***Тэма.*** Восеньскія плады – крыніца здароўя.
***Мэта:*** дапамагчы дзецям усвядоміць значэнне гародніны і садавіны ў харчаванні чалавека, фарміраваць уяўленне пра асноўныя вітаміны, іх ролю ва ўмацаванні здароўя чалавека, знаёміць з правіламі рацыянальнага харчавання, вучыць дзяцей працаваць у групах.
***Мэта ўрока мовай вучняў:*** вы даведаецеся аб вітамінах, якія ўтрымліваюцца ў гародніне, садавіне і іх ролі ва ўмацаванні здароўя. Асноўнае пытанне на сёння: ці трэба нам гародніна і садавіна?

**Матэматыка, 5 клас**

***Тэма.*** Дзяленне натуральных лікаў.
***Мэта:*** замацаваць правілы і ўласцівасці дзялення натуральных лікаў; стымуляваць развіцце лагічнага мыслення, хуткага лічэння.
***Мэта ўрока мовай вучняў:*** сёння на ўроку вы зможаце замацаваць уласцівасці дзялення натуральных лікаў пры рашэнні прыкладаў і задач. Асноўныя пытанні на ўроку: як знайсці дзялімае? Як знайсці дзельнік? Множанне і дзяленне – узаемна адваротныя дзеянні. Што гэта значыць?

Правільнае фармуляванне мэт – асобнае мастацтва. Найбольш частая памылка пры пастаноўцы мэт – адсутнасць у фармулёўцы (а значыць і ў свядомасці) часавых рамак і крытэрыяў паспяховасці выканання. Пры фармуляванні мэты настаўніку, перш за ўсё трэба задаць сабе пытанне: што ён хоча атрымаць у выніку яе выканання? Чаму важны гэты крытэрый? У яго фармулюецца сваё бачанне выніку выканання задачы. Чым ясней і дакладней гэта бачанне ў педагога, тым больш зразумела гэта будзе і для вучняў (уключаючы крытэрыі ацэнкі вынікаў іх дзейнасці).

**Прыклад мэты ўрока матэматыкі**

Навучыць чарціць акружнасць – мэта дрэнная.

Навучыць чарціць акружнасць зададзенага радыуса – мэта значна лепшая, бо ўжо зразумела: калі вучні не навучацца чарціць акружнасць зададзенага радыуса, то мэта не будзе дасягнута.

Навучыць чарціць акружнасць зададзенага радыуса з дапамогай цыркуля – мэта, сфармулявана карэктна: зразумелыя часавыя рамкі – на працягу 45 хвілін урока; зразумелы вынік – акружнасць, зразумелыя крытэрыі паспяховасці – акружнасць зададзенага радыуса з дапамогай цыркуля. Яшчэ адным важным крытэрыем з'яўляецца выканальнасць мэт. Як бы добра ні была сфармулявана мэта, калі яна невыканальная, то ніякага выніку ўсё роўна не будзе. Акрамя таго, мэта павінна быць сфармулявана ў дзеяслоўнай форме: "зрабіць тое і тое".

Кампетэнтнасны падыход прадугледжвае вымярэнне пастаўленай мэты. Як з гэтых пазіцый павінна выглядаць мэта ўрока? Як неабходна ставіць мэты, каб яны былі дасягнуты з вызначаным вынікам? Гэта тычыцца не толькі навучальнай мэты, але развіваючай і выхаваўчай.

Адным са спосабаў пастаноўкі кампетэнтнасна-арыентаваных мэт з'яўляецца прымяненне так званых SMART-крытэрыяў. Методыка пастаноўкі SMART-мэт – самая вядомая ў мэтавызначэнні.

У перакладзе з англійскай "*smart*" азначае "разумны" з адценнем "хітры", "кемлівы". У дадзеным выпадку гэта абрэвіятура, якую ўвёў Пітэр Друкер ў 1954 г. Абрэвіятура SMART (па першых літарах пяці англійскіх слоў) дапамагае запомніць пяць важнейшых крытэрыяў пастаноўкі "правільных" мэт:

**S-Specific** – канкрэтная

**M-Measurable** – вымяральная

**A-Achievable** – дасягальная

**R-Realistic** – рэалістычная

**T-Timed** – абмежаваная ў часе



## Навучальныя мэты

Правільная пастаноўка мэты азначае, што мэта з’яўляецца канкрэтнай, вымяральнай, дасягальнай, значнай і суадносіцца з канкрэтным тэрмінам.

**S** (Specific) – канкрэтная: мэта павінна быць выразна сфармуляванай. Інакш у канчатковым выніку можа быць дасягнуты вынік, які будзе моцна адрозніваецца ад запланаванага. Напрыклад, мэта “ўдасканальваць вылічальныя навыкі школьнікаў” (урок матэматыкі ў пачатковай школе) лепш канкрэтызаваць, якія навыкі трэба ўдасканальваць: складання з пераходам праз дзясятак, рашэння выразаў з дужкамі, множання адназначнага ліку на двухзначны і г. д.

**M** (Measurable) – вымяральная: калі ў мэты не будзе вымяральных параметраў, то будзе складана вызначыць, ці дасягнуты вынік. Вымяральнасць мэты прадугледжвае наяўнасць крытэрыяў (вымяральнікаў) для вызначэння, ці дасягнута пастаўленая мэта, і ў якой ступені.

Напрыклад, да ўрока матэматыкі ў 3 класе па тэме “Адзінкі масы. Грам» педагог паставіла навучальную мэту: стварыць умовы для пашырэння і паглыблення ведаў дзяцей аб адзінках вымярэння масы і фарміраваць паняцце “грам”. Словы “пашырэнне і паглыбленне ведаў аб адзінках вымярэння масы” не даюць дакладнага разумення, як настаўнік у канцы ўрока зможа вызначыць, наколькі і ў якой ступені будуць паглыблены і пашыраны веды вучняў аб адзінках вымярэння масы ў параўнанні з папярэднімі ўрокамі, таму дадзеную мэту нельга назваць вымяральнай. А вось мэта “пазнаёміць з новай адзінкай масы – грамам, яго абазначэннем і месцам у табліцы адзінак масы; паказаць магчымасць працы з раўнавагамі (гірамі); пазнаёміць з рознымі відамі вагаў” з’яўляецца аперацыйнай. Аперацыйнасць мэты азначае, што існуе спосаб праверкі дасягнення выніку.

**A** (Attainable) – дасягальная: мэты выкарыстоўваюцца ў якасці стымулу для вырашэння нейкіх задач і, такім чынам, далейшага руху наперад за кошт дасягнення поспеху. Варта ставіць досыць складаныя мэты (якія прадугледжваюць намаганні), але пры гэтым яны павінны быць дасягальнымі.

**R** (Realistic) – рэалістычная: неабходна рэальна ацэньваць рэсурсы і магчымасці педагога і вучняў па дасягненні мэты. Рэалістычнасць мэты ўрока павінна вызначацца з

пункту гледжання дастатковасці часу на яе дасягненне. Рэалістычнасць мэты вызначаецца з пункту гледжання яе адпаведнасці:

– падрыхтаванасці вучняў да яе рашэння на папярэдніх занятках;

– магчымасцям і здольнасцям навучэнцаў і настаўніка.

Калі мэта не з’яўляецца рэалістычнай, яе лепш разбіць на некалькі рэалістычных мэт.

**T** (Time-bounded) – абмежаваная ў часе: мэта павінна быць выканальная ў пэўным часавым вымярэнні (урок – 45 хвілін).

Зыходзячы з прапанаваных характарыстык, цяжка ўявіць лекара, які замест мэты “вылечыць чалавека ад хваробы”, паставіў бы мэту “развіццё назіральнасці, аналітычнага мыслення, выхаванне акуратнасці”. А вось для педагогікі такія “мэты”, на жаль, звыклыя. Вельмі часта яны фармальныя (што азначае адыход ад адказнасці за іх дасягненне), і можна сустрэць такія фармуліроўкі мэт, пастаўленых настаўнікам для 45-хвіліннага (!) ўрока: развіццё мыслення, памяці, мовы, выхаванне працавітасці і г. д. Ні спосабу вымярэння такой мэты, ні дасягнення, ні канкрэтнага ўяўлення пра вынік за 45 хвілін такая фармуліроўка мэты не дае.

**Развіццёвыя мэты**

Значна прасцей з навучальнай мэтай. Тут, як правіла, настаўнік адчувае сябе ўпэўнена. Бо гэтая мэта – з вобласці праграмных патрабаванняў, таму яна пэўная, дасягальная і г. д.

А вось развіццёвая мэта ўрока выклікае не толькі і не столькі цяжкасць, колькі жаданне “адмахнуцца”, напісаць што-небудзь фармальнае накшталт звыклага “развіваць”, “фарміраваць”. Тым самым – ліквідаваць дадатковую адказнасць за вынік урока, не звязаны з прадметнай накіраванасцю. Развіццёвыя мэты падзяляюцца на дзве катэгорыі:

- развіццё мыслення (аналіз, сінтэз, індукцыя, дэдукцыя, параўнанне);
- фарміраванне навыкаў-уменняў (маўленне, памяць, уяўленне, чытанне, складанне плана, канспект, праца з картай).

Прыклад развіццёвай мэты, якую сфармуляваў педагог да ўрока беларускай мовы ў 2-м класе па тэме “Роля прыметніка ў беларускай мове”: развіваць маўленне, арфаграфічную пільнасць, навыкі каліграфічнага пісьма.

З пункту гледжання кампетэнтнасна-арыентаваных SMART мэт гэтая фармулёўка не карэктная, бо не ўтрымлівае вымяральных параметраў і не можа быць рэалізавана на працягу 45 хвілін урока. Паспрабуем перафармуляваць развіццёвую мэту ўрока.

Напрыканцы ўрока вучні змогуць:

- устанаўліваць узаемасувязь прыметніка з назоўнікам (развіццё лагічнага мыслення);
- складаць тэкст з 3-4 сказаў з выкарыстаннем прыметнікаў;
- даваць поўныя адказы на пытанні настаўніка (развіццё вуснага маўлення вучняў);
- знаходзіць вывучаныя арфаграмы ў словах (развіццё арфаграфічнай пільнасці).

Каб навучыць карыстацца атрыманымі ведамі, пры планаванні мэты кожнага канкрэтнага ўрока, настаўнік павінен выразна ўяўляць якія прыёмы і стратэгіі будуць садзейнічаць развіццю:

- памяці;
- назіральнасці;
- увагі;
- крытычнага і лагічнага мыслення;
- умення правільна абагульняць дадзеныя і рабіць высновы;
- умення вылучыць галоўныя ўласцівасці;
- умення параўноўваць, абагульняць, аналізаваць;
- умення складаць план і карыстацца ім;
- умення супастаўляць факты і падзеі.

**Выхаваўчыя мэты ўрока**

На кожным уроку педагог павінен імкнуцца выхаваць найлепшыя якасці ў сваіх вучнях, таму перад кожным урокам павінны быць пастаўлены і выхаваўчыя мэты. Праблемы выхаваўчых мэт урока вырашаюцца няпроста. Менавіта тут максімальна праяўляецца фармалізм пры падрыхтоўцы настаўніка да ўрока. Як можна за адзін урок выхаваць, напрыклад, патрыёта або любоў да прыгожага?

Прызнаны аўтарытэт у практычнай педагогіцы У. Шаталаў піша:

*“Ужо само спалучэнне фармулёвак навучальных і выхаваўчых мэт урока часам дыскрэдытуе вялікія і значныя для нас з’явы і паняцці... Адзіная стратэгія выхавання і навучання закладзена ў самой сістэме працы, у прыватнасці – вынік прафесійнай падрыхтоўкі і практычных навыкаў педагога*”.

Урок дае ўнікальныя магчымасці для ўплыву на станаўленне вельмі многіх якасцей асобы вучняў. Выхаваўчы аспект павінен прадугледжваць выкарыстанне зместу вучэбнага матэрыялу, тэхналогій навучання, формаў арганізацыі пазнавальнай дзейнасці ў іх узаемадзеяння для ажыццяўлення фарміравання і развіцця грамадзянскіх, маральных, працоўных, эстэтычных, экалагічных і іншых якасцей асобы школьніка. Урок павінен быць накіраваны на выхаванне правільнага стаўлення да агульначалавечых каштоўнасцей, высокага пачуцця грамадзянскага абавязку. Фармулёўка выхаваўчых мэт для настаўніка на канкрэтных ўроках можа набываць адпаведны выгляд:

Напрыканцы ўрока:

– вучні будуць падрыхтаваны да самастойнага рашэння задач;
– у вучняў будзе выклікана цікаўнасць да ...;
– вучні будуць заахвочаны да актыўнасці;
– будзе замацавана ўпэўненасць у ...;
– вучні будуць імкнуцца да ўзаемадапамогі, павагі да старэйшых, пачуцця такту, спагадлівасці;
– вучні будуць адмоўна ставіцца да алкагалізму, наркаманіі, будуць імкнуцца да фізічнага здароўя;
– вучні будуць адчуваць адказнасць за даручаную справу, будуць імкнуцца да акуратнасці, добрасумленнасці;
– вучні адчуюць гонар за свой клас, школу;
– вучні навучацца кіраваць эмоцыямі.

Настаўніку часам няма неабходнасці колькасна правяраць, наколькі ён дасягнуў выхаваўчай мэты. Калі ён вядзе ўрок і бачыць пустыя вочы вучняў, значыць, урок праходзіць дарма. Вядома, пры пастаноўцы выхаваўчых мэт ўсюды, дзе магчыма, неабходныя пэўныя паказчыкі яе дасягнення. Адзін з такіх паказчыкаў маральны выбар вучня пры пастаноўцы настаўнікам вучэбна-выхаваўчай задачы.

Кампетэнтнасны падыход паступова ўваходзіць у штодзённую педагагічную практыку звычайнай школы. Самае галоўнае ў кампетэнтнасным падыходзе – вынік вучня, які зводзіцца не толькі да ўзроўню прадметнага навучання, але павінен уключаць узровень сфарміраванай кампетэнтнасці – здольнасці дзейнічаць у сітуацыі нявызначанасці на аснове атрыманых ведаў. І тут самае важнае – пераход мэт і каштоўнасцей у механізм, які дазволіць іх ператварыць у рэальнасць.

**Літаратура**


1. Вишнякова, С. М. Профессиональное образование : Словарь. Ключевые понятия, термины, актуальная лексика / С. М. Вишнякова. – М. : НМЦ СПО, 1999. – 538 с.

2. Запрудский, Н. И. Современные школьные технологии-2 / Н. И. Запрудский. – Минск : Сэр-Вит, 2010. – 256 с.

3. Конаржевский, Ю. А. Анализ урока / Ю. А. Конаржевский. – М. : Педагогический поиск, 2003.

4. Карнеева, Т. С. Праблемнае навучанне як спосаб развіцця ініцыятывы і творчасці / Т. С. Карнеева // Нар. асв. – 2009. – № 2. – С. 39 – 42.

5. Масюкова, Н. А. Проектирование в образовании / Н. А. Масюкова. – Минск : Технопринт, 1999. – 288 с.

6. Ожегов, С. И. Толковый слолварь русского языка / С. И. Ожегов, Н. Ю. Шведова. – 3-е изд. – 1953. – 848 с

7. Пидкасистый, П. И. Педагогика /П. И. Пидкасистый. – М., 1998. – С. 302.

8. Подласый, И. П. Продуктивная педагогика : кн. для учителя / И. П. Подласый. – М. : Нар. образование, 2003. – 496 с.

9. Хуторской, А. В. Практикум по дидактике и современным методикам обучения / А. В. Хуторской. – СПб. : Питер, 2004. – 541 с.

10. Дапаможнік для педагогаў-настаўнікаў праграмы “Step by Step”: настаўніцтва для павышэння якасці выкладання. – Матэрыялы семінара, 2004.

11. Шаталов, В. Ф. Из опыта экспериментальной работы /В. Ф. Шаталов // www.lib.ru [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.lib.ru/KIDS/SHATALOW/shatalov.txt. – Дата доступа : 12.12.2011.

12. Стэрна, Д. Метад актыўнай ацэнкі (Formative Assessment) / Д. Стэрна // www.nastaunik.info [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://nastaunik.info/metoda/formative_assessment. – Дата доступу : 12.12.2011.

13. Sterna, D. Ocenianie ksztaltujące w praktyce / D. Sterna. – Warszawa : Centrum Edukacji Obywatelskiej, 2008. – S. 58 – 69.

# Каб адзнака стала актыўнай

***М. В. Кудзейка,***
*старшы выкладчык кафедры педагогікі вышэйшай школы і сучасных выхаваўчых тэхналогій БДПУ ім. М. Танка*

*Па матэрыялах семінара «Эфектыўныя метады матывацыі і ацэнкі. Актыўная ацэнка»*

**Актуальнасць праблемы**

З новага навучальнага года вучэбныя прадметы “Працоўнае навучанне”, “Выяўленчае мастацтва” ў 3-м класе пераходзяць на безадзнакавае навучанне, у якім сістэма кантролю і ацэнкі будуецца на змястоўна-ацэначнай аснове без выстаўлення адзнак. Эфектыўнасць выкарыстання безадзнакавага навучання ў адукацыйным працэсе наўпрост залежыць ад усведамлення, разумення і прыняцця педагогамі новага спосабу ацэньвання. Несумненна, цяжка будзе перабудавацца прыхільнікам традыцыйнай сістэмы навучання, упэўненым, што выключэнне з навучальнага працэсу адзнакі прывядзе да агульнай дэзарыентацыі вучняў, у пошуку сэнсу вучэбнай дзейнасці, а працу педагога зробіць яшчэ больш працаёмістай, бо адзнака заўсёды была стымулам навучальных дасягненняў.

Не менш складаным, а можа і немагчымым, будзе прыняцце безадзнакавага навучання педагогамі, якія не задумваюцца аб важнасці і неабходнасці змены адукацыйнага працэсу з улікам развіцця асабовых якасцей школьніка, а толькі фармальна выконваюць інструкцыі, спушчаныя зверху. Але толькі зацікаўленасць і актыўнае выкарыстанне патэнцыялу безадзнакавага навучання педагогамі ў развіцці творчых здольнасцей выхаванцаў дасць магчымасць змяніць статус прадметаў “Працоўнае навучанне” і “Выяўленчае мастацтва”, пераводзячы іх з шэрагу навучальных у прадметы развіццёвага навучання. Бо творчыя здольнасці, як і ўзровень праяўлення творчай актыўнасці, нельга вымяраць эталонам адзнакі, паколькі творчасць, як і сама асоба дзіцяці, індывідуальная. Вядома ж, да дадзенага новаўвядзення можна ставіцца па-рознаму, але неабходна памятаць, што ў аснове педагагічнай дзейнасці знаходзіцца асоба дзіцяці з яго інтарэсамі, здольнасцямі і магчымасцямі.

Рознае стаўленне педагогаў да праблемы развіцця творчых здольнасцей малодшых школьнікаў фарміруе розныя падыходы да выкладання вучэбных прадметаў і, вядома ж, дае розныя вынікі педагагічнай дзейнасці. Ці можа традыцыйная сістэма навучання, заснаваная на рэпрадуктыўным спосабе падачы ведаў навучэнцам, выйсці за межы выканальніцкага ўзроўню, забяспечваючы аб'ектыўнасць ацэньвання вынікаў творчай дзейнасці на эўрыстычным і крэатыўным узроўнях развіцця? Сумнеўна. Для таго, каб ацаніць творчыя здольнасці дзіцяці на эўрыстычным і крэатыўным узроўнях, неабходна спачатку даць магчымасць навучэнцам выявіць іх.




Як паказвае практыка, выкладанне прадметаў "Выяўленчае мастацтва" і "Працоўнае навучанне" ў школах рэспублікі грунтуецца на традыцыйнай сістэме навучання, дзе аснова – работа паводле ўзору (рэпрадуктыўны метад навучання), а гэта значыць, што педагогі добрасумленна забяспечваюць усіх вучняў толькі неабходнымі ведамі, уменнямі і навыкамі ў адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі. Пры такой сістэме навучання ўлік інтарэсаў, здольнасцей, магчымасцей навучэнцаў аказваецца неабавязковым і практычна немагчымым, бо арыенцірам навучання з'яўляецца не індывідуальнасць кожнага дзіцяці, а праца на сярэдняга вучня (хтосьці лепш, хтосьці горш, але з заданнем справіліся ўсе). Ці магчыма пры такой сістэме навучання адрозніваць, вызначаць, стымуляваць і аб'ектыўна ацэньваць творчыя дасягненні кожнага дзіцяці? На мой погляд, не падаецца магчымым!!!

Вось і атрымліваецца, калі мы пакідаем у якасці асновы навучання традыцыйную сістэму выкладання (нават калі мы яе назавем асабова-арыентаванай, гуманістычнай, дыферэнцаванай і г. д.) сэнсу ў безадзнакавым навучанні няма і не будзе. Сэнс і вынік выявіцца толькі тады, калі ў сістэме працы педагога з'явіцца метадычны інструментар, здольны ў вучэбнай дзейнасці выяўляць, дыферэнцаваць, стымуляваць інтарэсы, магчымасці, здольнасці кожнага вучня з мэтай яго самарэалізацыі ў творчай дзейнасці.

**Развіццёвае асяроддзе і яго роля**

Кожнаму чалавеку ў той ці іншай ступені ўласцівая здольнасць да творчасці, аднак раскрываецца і развіваецца яна неаднолькава,

пакольki для яе рэалізацыі неабходныя пэўныя сацыяльныя ўмовы, пэўны тып мыслення і ўзровень самасвядомасці, творчая атмасфера, наяўнасць пэўных ведаў, генетычна і сацыяльна сфарміраваных уласцівасцей і якасцей асобы. Пры пэўных умовах развіцця адбываецца інтэнсіўнае назапашванне неабходнага досведу (рэпрадуктыўнага і творчага), які забяспечвае актыўнасць асобы на наступных этапах развіцця здольнасцей, у творчай дзейнасці.

Створаная настаўнікам атмасфера добразычлівасці, даверу, суперажывання, павагі дазволіць вучню імкнуцца да найбольш поўнага раскрыцця сваіх магчымасцей. Бачачы, як шануецца яго годнасць, самастойная думка, творчы пошук, ён будзе імкнуцца да вырашэння больш складаных задач. Яму вельмі важна адчуваць, што з ім лічацца, цэняць яго меркаванне, давяраюць. У магчымасцях настаўніка стварэнне такога асяроддзя і ўмоў, якія спрыяюць даверлівым адносінам, прадстаўляюць дзецям магчымасць свабодна выказваць свае меркаванні, уносіць прапановы, ажыццяўляць самастойны выбар. Не менш важным з'яўляецца стварэнне сітуацыі поспеху, якая дазваляе кожнаму школьніку адчуць сябе здольным да пераадолення любых цяжкасцей. Асабліва ў гэтым маюць патрэбу дзеці з няўстойлівай або зніжанай самаацэнкай, для якіх сітуацыі няўдачы з'яўляюцца асабліва цяжкімі, выклікаюць павышаны неспакой і замкнутасць, што адмоўна сказваецца на выяўленні іх магчымасцей. Асабова-арыентаваныя, гуманістычныя, дзейнасныя падыходы да арганізацыі адукацыйнага працэсу спрыяюць паўнавартаснаму развіццю асобы, ствараюць асаблівую атмасферу, якая ўсталёўвае раўнавагу паміж рэальнымі магчымасцямі і прыроднымі патрэбамі дзіцяці. У такім асяроддзі вучань не атрымлівае гатовыя веды, а вучыцца здабываць іх самастойна, у працэсе назірання за жывой прыродай, на аснове ўласнага вопыту. Пры гэтым, асноўнай мэтай развіцця асобы малодшага школьніка будзе выступаць не аб'ём ведаў, а ўменне самастойна і прадуктыўна распараджацца імі.

## Паслядоўнасць у развіцці творчасці малодшых школьнікаў

Найбольш прадуктыўным у развіцці творчасці з'яўляецца малодшы школьны ўзрост. Гэта перыяд фарміравання падмурка асобы: сацыяльна значных якасцей, асноў светапогляду, звычак, развіцця пазнавальных здольнасцей, канструіравання разнастайных адносін з навакольным светам. Творчая асоба малодшага школьніка – гэта асоба, якая, валодаючы творчай скіраванасцю і творчымі здольнасцямі, стварае шляхам прымянення арыгінальных спосабаў дзейнасці аб'ектыўна або суб'ектыўна новыя матэрыяльныя або духоўныя каштоўнасці. Фарміраванне творчай асобы адбываецца

ў дзейнасці, якая характарызуецца актыўнасцю, індывідуальнасцю і паслядоўнасцю развіцця. Паслядоўнасць развіцця можна прадставіць у выглядзе трох этапаў: матывацыйна-назапашвальны (рэпрадуктыўны ўзровень развіцця творчых здольнасцей), адаптацыйна-практычны (эўрыстычны ўзровень развіцця творчых здольнасцей), творча-пошукавы (крэатыўны ўзровень развіцця творчых здольнасцей). Улік індывідуальнасці і захаванне паслядоўнасці ў фарміраванні творчых здольнасцей малодшага школьніка ў адукацыйным працэсе пачатковай школы дазволіць ад працы па ўзоры дасягнуць вынікаў самастойнай крэатыўнай дзейнасці. Разгледзім больш падрабязна нюансы развіцця творчых здольнасцей малодшага школьніка на кожным з этапаў. Матывацыйна-назапашвальны этап забяспечвае фарміраванне рэпрадуктыўнага ўзроўню развіцця творчасці, заключаецца ў развіцці матывацыі малодшых школьнікаў да мастацка-канструктарскай дзейнасці.

Гэта спецыяльна арганізаваная вучэбная дзейнасць, якая ўлічвае ўзроставыя асаблівасці дзяцей, заснаваная на аваладанні пасільным пазнавальным матэрыялам (ад простага да складанага), стымулюючая цікавасць да працэсу і выніку дзейнасці, здольная матываваць малодшага школьніка да развіцця творчай актыўнасці ў асваенні мастацка-канструктарскай дзейнасці. На дадзеным этапе адбываецца назапашванне ведаў, уменняў, навыкаў, неабходных для ажыццяўлення мастацка-канструктарскай дзейнасці і развіцця творчай актыўнасці. Пазнавальная матывацыя будзе з’яўляцца вядучай на дадзеным этапе развіцця.




Адаптацыйна-практычны этап забяспечвае развіццё творчых здольнасцей на эўрыстычным узроўні, характарызуецца актуалізацыяй ведаў падчас мастацка-канструктарскай дзейнасці на практыцы. З апорай на назапашаныя веды і ўменні навучэнцаў, настаўнік арганізуе адукацыйны працэс, нацэлены на праяўленне самастойнасці на практыцы. Адной з умоў на дадзеным этапе развіцця, будзе з’яўляцца стымуляванне цікавасці да самастойнай творчасці, якое выяўляецца ў атрыманні выніку па зададзеным алгарытме без дапамогі дарослага. На дадзеным этапе малодшыя

школьнікі павінны ўмець вылучаць розныя ўласцівасці прадметаў, з'яў, суадносіць іх з тэхналагічным працэсам, аналізаваць, абагульняць, параўноўваць і рабіць высновы аб рацыянальным іх выкарыстанні ў вырабе рэчаў. Гэтая дзейнасць патрабуе ад навучэнцаў такіх якасцей, як самастойнасць, назіральнасць, кемлівасць, ініцыятыўнасць, што спрыяе развіццю творча-актыўнай асобы. Адукацыйны працэс, арганізаваны на аснове калектыўнага супрацоўніцтва, пашырае магчымасці развіцця творчасці.

Творча-пошукавы этап забяспечвае крэатыўны ўзровень развіцця творчых здольнасцей малодшых школьнікаў і заключаецца ў праяўленні творчай актыўнасці ў адносінах да працэсу мастацка-канструктарскай дзейнасці. Назапашаны досвед (сацыяльны, навучальны, тэхналагічны) дазваляе дзіцяці рэалізаваць свой творчы патэнцыял ва ўмовах развіццёвага асяроддзя; дае магчымасць знаходзіць арыгінальныя рашэнні ў канструяванні, прагназаваць і апяррэджваць вынік, ствараць ўзоры, вартыя высокай эстэтычнай і інтэлектуальнай ацэнкі. З пазіцыі прадуктыўнасці выкарыстання формаў мастацка-канструктарскай дзейнасці на творча-пошукавым этапе развіцця творчай актыўнасці, можна канстатаваць факт самастойнай інтэрпрэтацыі назапашаных навучэнцамі ведаў на практыцы. Асаблівая роля ў развіцці творчасці на творча-пошукавым этапе належыць калектыўнай творчасці, якая дазваляе прадуктыўна фарміраваць не толькі веды ў галіне мастацка-канструктарскай дзейнасці, але і ўлічваць інтарэсы, схільнасці і магчымасці вучняў, даючы “прастору” для вольнай творчасці.

Як мы бачым, развіццё творчых здольнасцей – заканамерны і паслядоўны працэс, які не можа ажыццяўляцца спантанна і выбарачна. Парушэнне яго паслядоўнасці або працягласці не дазволіць дасягнуць максімальнага выніку ў справе развіцця творчых здольнасцей малодшага школьніка. Развіццё творчасці малодшага школьніка спыніцца на тым узроўні, магчымасці для рэалізацыі якога прадугледжвае адукацыйная (развіццёвая) прастора. Так, традыцыйная сістэма адукацыі, заснаваная на рэпрадуктыўных метадах навучання, дазваляе малодшым школьнікам набыць прадугледжаныя вучэбнай праграмай веды, уменні, навыкі па прадмеце і прымяніць іх у творчай дзейнасці, але пад кіраўніцтвам настаўніка. Гэта кажа аб тым, што традыцыйная сістэма навучання дазваляе рэалізаваць у поўным аб'ёме толькі рэпрадуктыўны і частковa эўрыстычны этапы развіцця творчасці малодшых школьнікаў. Выхад на крэатыўны ўзровень развіцця не прадугледжаны, а адпаведна – немагчымы.

**Свабода творчасці**

Як бы мы не імкнуліся з дапамогай рэпрадуктыўных метадаў навучання акцэнтаваць ўвагу на стымуляванні развіцця творчых здольнасцей дзяцей (вербальна, з дапамогай ацэньвання), мы можам казаць толькі аб магчымасцях развіцця здольнасцей у рамках рэпрадуктыўнага навучання. Гэтая сітуацыя нагадвае птушку ў клетцы. Птушка патэнцыйна можа: лётаць, спяваць, віць гнёзды, выхоўваць птушанят, але, знаходзячыся ў клетцы, яна можа толькі спяваць… Павялічваючы памеры клеткі, мы можам толькі часткова палегчыць яе долю ў рэалізацыі сваіх магчымасцей, а выпусціўшы яе, дазволім ёй рэалізаваць іх цалкам. Так і з вучнем. Разгледзець творчы патэнцыял малодшага школьніка магчыма толькі ў прадуктыўнай свабоднай дзейнасці, якая дазваляе вучню самастойна вызначыць сваю ролю, цікавасць, магчымасць і ступень удзелу ў творчым працэсе. Адукацыйны працэс пабудаваны на аснове свабоднай творчасці грунтуецца на прынцыпах: асабова-арыентаванага навучання (камфортнасць, узаемаразуменне, узаемападтрымка, запатрабаванасць, актуалізацыя ведаў і рэалізацыя магчымасцей з улікам тэмпераменту, здольнасцей, схільнасцей, інтарэсаў, матываванасці, ведаў, ідэйнасць і г. д.); гендарнага падыходу (магчымасць уліку інтарэсаў хлопчыкаў і дзяўчынак); праблемнага навучання (самастойнасць і ініцыятыўнасць ў вырашэнні задач адкрытага тыпу); развіццёвага навучання (навучанне ў “зоне найбліжэйшага развіцця”); крэатыўнасці (імкненне да арыгінальнасці, вынаходлівасці, самарэалізацыі); дэмакратычнасці (прадастаўленне права выбару, права на сваё меркаванне, улік жаданняў); вітагеннай адукацыі (актуалізацыя жыццёвага вопыту асобы, яе інтэлектуальна-псіхалагічнага патэнцыялу ў адукацыйных мэтах).




Арганізацыя адукацыйнага працэсу на аснове свабоднай творчасці дазваляе ўлічваць чатыры тыпы свабоды, неабходных для выхавання стваральнай асобы: свабода для аналізу і даследаванняў, свабода для пошуку і дапытлівасці, свабода выказвання, свабода быць самім сабой. Захаванне прадстаўленых тыпаў свабоды дазволіць навучыць дзіця ўменню супрацоўнічаць, паважаць чужую ініцыятыву,

абараняць уласныя ідэі, каардынаваць сваю дзейнасць, аб’ектыўна ацэньваць вынікі індывідуальнай працы і калектыўнай творчасці, максімальна выкарыстаць назапашаны вопыт, фантазіраваць, вынаходзіць, а галоўнае – яна дазваляе вучню пастаянна знаходзіцца ў “зоне найбліжэйшага развіцця”.

**Актыўная адзнака**

Бесперапыннасць і выніковасць адукацыйнага працэсу вызначае ацэначная дзейнасць педагога, узаемаацэнка і самаацэнка навучэнцаў. Вельмі важна, каб ажыццяўляемая ацэнка вынікаў дзейнасці навучэнцаў была па-сапраўднаму выніковай, якая адлюстроўвае не толькі рэальны стан ведаў, уменняў і навыкаў, асабовы рост вучня, яго перспектывы развіцця, але і вызначае больш перспектыўныя метады навучання. Такога роду ацэнку называюць актыўнай.

Рэалізацыя актыўнай ацэначнай дзейнасці пачынаецца з планавання ўрока, з мэтапастаноўкі. Акрамя традыцыйнай мэты ўрока, якая змяшчае запланаваны вынік навучання, мэтазгодна ўнесці ў канспект урока тую ж мэту ўрока, але для дзяцей на зразумелай для іх мове.

***Тэма ўрока.*** *Рамонт адзення. Прышыванне гузікаў.*
***Мэта ўрока (для настаўніка):*** *пазнаёміць навучэнцаў з алгарытмам і рознымі варыянтамі прышывання гузікаў з чатырма адтулінамі.*
***Мэта ўрока (для вучняў):*** *вы навучыцеся самастойна замацоўваць гузікі з чатырма адтулінамі на тканіне, выкарыстоўваючы тры розныя спосабы прышывання.*

Такі падыход дасць магчымасць у даступнай форме данесці да вучняў канкрэтную інфармацыю аб тым, што і для чаго яны будуць рабіць на ўроку, у канцы ўрока гэта дазволіць навучэнцам самастойна вызначыць плённасць сваёй дзейнасці і дасягнутасць пастаўленай перад імі мэты.

Наступным этапам ажыццяўлення актыўнага ацэньвання з’яўляецца вызначэнне крытэрыяў ацэнкі (разам з навучэнцамі), якія дадуць магчымасць па завяршэнні практычнай дзейнасці аб’ектыўна ацаніць сваю працу, працу таварыша, групы і атрымаць кампетэнтныя, абгрунтаваныя заўвагі.

***Пры прышыванні гузікаў:***

- *захаванне тэхнікі бяспекі працы з нажніцамі і іголкай;*
- *захаванне паслядоўнасці прышывання гузікаў;*
- *раўналежнасць шыўкоў;*
- *акуратнасць правага і споднягa бакоў загатоўкі;*
- *наяўнасць 3-х узораў прышытых гузікаў рознымі спосабамі.*

Кіруючыся дадзенай інструкцыяй, кожны вучань будзе будаваць сваю практычную дзейнасць з улікам крытэрыяў, якія вызначаюць якасць выкананай працы. Такі падыход гарантуе максімальную якасць і аб'ектыўнасць ацэньвання выніку дзейнасці. Любы настаўнік, маючы на ўроку спіс крытэрыяў дзейнасці навучэнцаў, з лёгкасцю зможа правесці ацэнку работы навучэнцаў, навучэнцамі або арганізаваць самаацэнку.




Вялікую ролю ў планаванні і пры правядзенні ўрока грае выкарыстанне прыёмаў, якія матывуюць вучняў да самастойнай дзейнасці творчага характару. Як адзін з прыкладаў, выкарыстанне ключавых пытанняў. Ключавыя пытанні – гэта своеасаблівыя задачы праблемнага характару, якія дазваляюць не толькі задумацца аб неабходнасці вывучэння прапанаванага настаўнікам матэрыялу, але і прыняць актыўны ўдзел у яго засваенні для пошуку ісціны.

*Пытанні рознага ўзроўню складанасці (улічваюць ўзрост дзяцей, ступень зацікаўленасці ў канструктарскай дзейнасці і канчатковы вынік практычнай дзейнасці):*

- *Што я павінен умець і ведаць, каб гэтак жа хутка і якасна прышываць гузікі, як мама?*
- *Ці можна на аснове прышытых гузікаў зрабіць вешалку для адзення?*
- *Ці можна, прышываючы гузікі на тканіну, зрабіць твор мастацтва?*

Ключавыя пытанні павінны заахвочваць вучняў да разваг, прадастаўляць магчымасць дэманстрацыі ведаў, уменняў, навыкаў, вызначаць перспектывы далейшага развіцця. Пошук адказаў на пастаўленае пытанне можа ажыццяўляцца шляхам спроб і памылак індывідуальна і ў парах, але абавязкова самастойна. Педагогу не трэба спяшацца з атрыманнем адказу на пастаўленае пытанне, можна першапачаткова выслухаць здагадкі, абмеркаваць іх у парах, групах, а па выніках практычнай дзейнасці пераканацца ў іх правільнасці або абсурднасці, з дапамогай вуснага абмеркавання, дэманстрацыі практычных эксперыментаў або нагляднай ілюстрацыі канчатковага выніку працы.

Не менш важным момантам у планаванні работы на ўроку з'яўляецца вызначэнне сувязі з папярэднімі ведамі навучэнцаў. Гэтая пазіцыя неабходная для таго, каб настаўнік, як і самі вучні, адчувалі эфект руху наперад у ведах, уменнях і навыках па дадзенай тэме (у дадзенай тэхніцы, тэхналогіі). Напрыклад:

***На мінулых ўроках мы:***

- *навучыліся правільна карыстацца нажніцамі і іголкай;*
- *навучыліся тэхніцы бяспекі пры рабоце з нажніцамі і іголкай;*
- *навучыліся ствараць паралельныя шыўкі на тканіне;*
- *навучыліся прышываць гузік з дзвюма адтулінамі;*
- *навучыліся фіксаваць нітку на тканіне ў канцы працы.*

Індывідуальны падыход да ажыццяўлення ацэначнай дзейнасці навучэнцаў дазваляе фіксаваць паспяховасць і непаспяховасць у засваенні таго ці іншага віду дзейнасці. Калі вучань на мінулых занятках дапусціў памылкі, не справіўся з аб'ёмам працы, то ў гэты раз яму неабходны індывідуальны падыход, дапамога настаўніка ці аднакласніка. Актуалізацыя ведаў дазваляе моцным вучням рухацца наперад, а слабым наганяць упушчанае і будаваць сваю траекторыю росту.

Ключавым момантам ажыццяўлення актыўнай ацэнкі з'яўляецца зваротная сувязь, якая дазваляе педагогу ў вуснай ці пісьмовай формах выказаць свае заўвагі, прапановы ў дачыненні да працэсу і выніку дзейнасці навучэнца. Вусны або пісьмовы дыялог павінен будавацца на аснове павагі, добразычлівасці, дэмакратычнасці. Кожны вучань мае права пагадзіцца ці не пагадзіцца з прапановамі і заўвагамі настаўніка, прапанаваўшы сваё бачанне дадзенага пытання, аргументацыю свайго пункту гледжання. Індывідуальны падыход да ажыццяўлення зваротнай сувязі дасць магчымасць

настаўніку ў індывідуальным парадку, пасля ўрокаў, пагаварыць з вучнем аб яго праблемах і дасягненнях, разам вызначыць планы далейшага развіцця. Змястоўнасць зваротнай сувязі вызначаецца наяўнасцю наступнай інфармацыі: вызначэнне станоўчых момантаў у выніках дзейнасці; указанне на недахопы вынікаў працы і вызначэнне магчымасцей яе дапрацоўкі, удасканалення; падказкі аб магчымых варыянтах паляпшэння работы; складанне планаў і перспектыў далейшага развіцця. З пазіцыі педагагічнай дзейнасці зваротная сувязь дае магчымасць настаўніку прааналізаваць сваю дзейнасць і выпрацаваць меркаванне аб эфектыўнасці выкарыстаных метадаў навучання і неабходнасці іх ўдасканалення.

**Актыўнае безадзнакавае навучанне**

Усведамленне і разуменне педагагічных праблем настаўнікам, уменне іх прафесійна вырашаць дае вучню шанц усвядоміць і рэалізаваць сябе як самабытную творчую асобу. Сучасны этап развіцця адукацыі, накіраваны на асабова-арыентаванае навучанне дазваляе вызначыць асобу педагагічнага працэсу, якой з'яўляецца дзіця са сваімі інтарэсамі, здольнасцямі і магчымасцямі. Кожны з настаўнікаў мае права абраць сваю пазіцыю і выпрацаваць сваё стаўленне да арганізацыі безадзнакавага навучання. Я свой выбар зрабіў і лічу, што выкарыстанне безадзнакавага навучання на ўроках "Працоўнага навучання" і "Выяўленчага мастацтва" настаўніку і вучням дазволіць:

- ажыццяўляць улік асабовага росту ў фарміраванні і развіцці мастацка-творчых здольнасцей малодшых школьнікаў;
- рэалізаваць магчымасці самааналізу і самаацэнкі ў павышэнні творчых дасягненняў навучэнцаў;
- атрымаць магчымасць самаразвіцця і самарэалізацыі ў дзейнасці творчага характару;
- ажыццяўляць дзейнасць творчага характару ў "зоне актуальнага і найбліжэйшага развіцця" на аснове інтарэсаў, магчымасцей і здольнасцей малодшых школьнікаў;
- выкарыстоўваць магчымасці выяўлення і стымулявання творчага патэнцыялу асобы малодшага школьніка;
- ажыццяўляць ацэньванне ведаў, вынікаў дзейнасці вучняў на аснове крытэрыяльнага падыходу.

Калі вы для сябе вырашылі і зрабілі выбар на карысць развіцця асабовых якасцей школьніка, то варта яшчэ раз удакладніць паслядоўнасць арганізацыі актыўнай ацэнкі ў навучальным працэсе:

- у пачатку кожнага ўрока паведамляць навучэнцам мэты і задачы вучэбнай дзейнасці, якія дазваляюць вызначыць не толькі кірунак дзейнасці на дадзеным уроку, але і самастойна ацаніць ўзровень іх дасягненняў па заканчэнні навучальнага працэсу;

- вызначаць крытэрыі ацэнкі дзейнасці і выніку (індывідуальнага або сумеснага) разам з навучэнцамі, што будзе асновай падвядзення вынікаў дзейнасці на ўроку і спросціць працэс арганізацыі ўзаемааналізу або самааналізу вынікаў дзейнасці;

- ажыццяўляць засваенне новага матэрыялу, адаптацыю ці інтэрпрэтацыю пройдзенага на аснове праблемных пытанняў, сітуацый, скіраваных на самастойнае рашэнне;

- ацэньванне ажыццяўляць у вуснай ці пісьмовай формах у выглядзе дыялагічных каментарыяў, якія адлюстроўваюць станоўчыя бакі працы, парады па яе паляпшэнні з пункту гледжання педагога, згоду ці аргументы нязгоды з пазіцыі навучэнца;

- ажыццяўляць супрацоўніцтва навучэнцаў у творчай дзейнасці праз парады, дапамогу, ацэньванне;

- ажыццяўляць самаацэнку дзейнасці і планаваць сваё далейшае развіццё.

Упэўнены, такі падыход да арганізацыі творчай дзейнасці школьнікаў дазволіць вам зрабіць ацэнку не толькі актыўнай, але і рэзультатыўнай.

Творчых поспехаў вам і вашым выхаванцам!



# Водгукі беларускіх настаўнікаў аб выкарыстанні некаторых прыёмаў АА ў сваёй працы

***Галіна Скарына,***
*настаўніца беларускай мовы і літаратуры*
*гімназіі г. Белаазёрска*

Метад АА дапамагае вучням арыентавацца ў сваіх ведах, а настаўніку скіраваць сваё планаванне на праблемныя моманты ў засваенні матэрыялу. І пры гэтым падобная праца з’яўляецца важным фактарам матывацыі, прымушае дзяцей усведамляць, што яшчэ не засвоена ў межах вывучанай тэмы і цэлага раздзела. Асабліва спрыяюць такому аналізу розныя прыёмы зваротнай сувязі і ключавыя пытанні.

Зваротную сувязь ладзіла заўсёды. Толькі часцей мела яна выгляд дыялогу:

– Ці ўсё вам, дзеці, зразумела?
– Што яшчэ трэба патлумачыць?
– Хто не засвоіў тэму, падыдзіце на перапынку да мяне.

Дыялог не заўсёды спрыяе бачанню рэальнай карціны. Не на кожным узроставым этапе вучні шчыра адказваюць на пытанні падобнага кшталту. У старэйшых класах саромеюцца адкрыта сказаць пра сваё неразуменне. А прыёмы зваротнай сувязі па метадзе АА дазваляюць убачыць рэальную карціну. Эфектыўна дзейнічае прыём сігнальных картак у выглядзе трохкутнікаў, бакі якіх маюць два колеры – зялёны і чырвоны. Ад пачатку ўрока яны стаяць на парце вучня зялёным бокам да стала настаўніка. Калі ў вучня ўзнікаюць праблемы, ён паварочвае чырвоным бокам да настаўніка, і гэта з’яўляецца паведамленнем аб праблеме ў працы дадзенага вучня. Падыходжу, індывідуальна працую, калі ўдаецца ліквідаваць непаразуменне, радыя абое. Калі не, дык дамаўляемся аб дадатковай працы на падтрымліваючых занятках.

У старэйшых класах, асабліва пры падрыхтоўцы да ЦТ, добра спрацоўваюць лісты самаацэнкі і кантролю. Лісты самаацэнкі вядуць вучні індывідуальна. На такім лісце пералічаны правілы па арфаграфіі і пунктуацыі, і насупраць кожнай тэмы вучань пасля

ўрокаў робіць пазнаку: ведаю – не ведаю тэму, умею прымяняць правіла – не ўмею прымяняць. Гэтыя лісты захоўваюцца ў кабінеце. І настаўнік мае магчымасць аналізаваць якасць засваення матэрыялу. Але заўважыла, шо не заўсёды вучань адэкватна можа ацаніць свае навыкі прымяненя правілаў. Таму маю яшчэ свае лісты кантролю, у якіх вяду ўлік памылак кожнага вучня, каб потым праводзіць карэкцыйную работу ўжо з цэлым класам. Добра падобны ўлік рабіць на камп'ютары ў праграме Excel.

Урок літаратуры быў бы нецікавым, каб на ім не гучалі ключавыя пытанні. Яны дазваляюць не толькі правяраць веданне зместу, але і разуменне прачытанага, вучаць разважаць, будаваць лагічныя ланцужкі, каб дайсці да сутнасці. Напрыклад, пры вывучэнні рамана "Людзі на балоце" І. Мележа, аналізуючы вобразы Васіля і Ганны, у тэму ўрока выношу пытанне: "Чаму не ажаніліся Васіль і Ганна?", а пры разглядзе аповесці "На ростанях" Я. Коласа: "Чаму разышліся сцежкі Андрэя Лабановіча і Ядвісі?". Каб вучні зразумелі сілу ўздзеяння аўтарскай пазіцыі на чытача, пры вучэнні апавядання "Галя" Я. Брыля пытаюся ў вучняў: "Галя – звычайная прыстасаванка і маральна разбэшчаная дзяўчына ці не?" (Па творы яе ўчынкі скіроўваюць на падобнае асуджэнне, бо яна ў першы ж вечар цалавалася з Юрачкам, а калі таго арыштавалі, то чакаць не стала. Выйшла замуж за Хамёнка ўжо цяжарная. І шмат якія іншыя яе ўчынкі, здаецца, вымагаюць абурэння, а мы яе любім і не асуджаем. Спрацоўвае аўтарская пазіцыя. Мы глядзім на Галю вачыма Я. Брыля, а ён любіць сваю гераіню. І нас у гэтым пераканаў.) Гэтак жа сама моцна спрацоўвае аўтарская пазіцыя і ў творы "Трэцяе пакаленне" К. Чорнага, які зараз мы вывучаем на ўроках дадатковага чытання. Каб правесці дасканалы аналіз твора ў назву тэмы ўрока выношу пытанне: «Скуратовіч – вораг народа ці "новы беларус"?»

Вось праз такія прыёмы АА ўрокі з'яўляюцца вынікам сумеснай дзейнасці настаўніка і вучня і спрыяюць дасягненню пастаўленых мэт усімі суб'ектамі навучальнага працэсу.

***Таццяна Барткевіч,***
*настаўніца беларускай мовы*
*і літаратуры з г. Глыбокае*

Першае, што я скарыстала з прыёмаў АА, гэта непадыманне рук пры пэўных відах навучальнай дзейнасці. Для кожнага класа падрыхтавала палоскі кардону пэўнага колеру па колькасці вучняў: пяты клас – чырвоныя, шосты – зялёныя, сёмы – жоўтыя… І найперш на практыцы праверыла тэарэтычныя высновы адносна таго,

што на ўроку звычайна выклікала вучняў, ад якіх спадзявалася атрымаць правільны адказ, або тых, хто відавочна быў негатовы да ўрока. Не магла пакрыўдзіць таго, хто з усяе сілы цягнуў руку ўверх і, канечне ж, крыўдзіла некага, калі такіх рук было шмат. Праблема сышла адразу, бо “выбар рабіў лёс”. Гэты прыём вымусіў усіх вучняў класа шукаць адказ на пастаўленае пытанне, а не спадзявацца на тое, што “мяне ўсё роўна не выклікаюць” ці “Юля руку падыме першая – ёй і гаварыць”.

Выкарыстоўваючы НаштоБуЗУ пры падрыхтоўцы да кантрольнага дыктанта, была сама ўражана вынікамі. Метад даў магчымасць моцным вучням напісаць на 9 – 10 балаў, а слабым на станоўчую адзнаку (больш за тры балы).

Заўважыла, што пастаўленая адзнака за пэўную тэму адбівала ахвоту што-небудзь давучыць, дапрацаваць, а непастаўленая (калі яна непажаданая для вучня) стымулюе да працы. Такім чынам, ацэньваючы працу вучняў на кожным уроку, высвятляючы прабелы ў ведах або разуменні матэрыялу, стала даваць ім шанц паправіць становішча. Абсалютная большасць яго выкарыстоўвае. Канечне, такая праца павялічвае нагрузку настаўніка, але і паляпшае вынікі працы.

Для эфектыўнай працы неабходна зваротная сувязь на кожным уроку. Яна дае магчымасць эфектыўна планаваць наступны ўрок, бачыць, каму з вучняў трэба дапамога, а вучань атрымлівае не толькі рэкамендацыі для далейшай працы, але і моцны стымул для ўдасканальвання сваіх ведаў. На сваіх уроках выкарыстоўваю таблічкі (вывешваю на дошцы напрыканцы ўрока) або лісткі з надпісамі “ўмею добра”, “умею не вельмі добра”, “не ўмею”, на якіх вучні робяць запісы ў адпаведнасці з тэмай і мэтай. Напрыклад, “Умею добра знаходзіць у сказе дапаўненне”, “Не вельмі добра ўмею знаходзіць акалічнасць. Часам блытаю яе з азначэннем”, і да т. п. Карыстаюся метадам незакончаных сказаў тыпу: “Лягчэй за ўсё мне было…”, “Цяжэй за ўсё мне было…”.

Для зваротнай сувязі выкарыстоўваю таксама сігнальныя карты, зробленыя па прынцыпе “методнікаў”, што бачыла ў польскіх настаўнікаў. Яны дапамагаюць падчас працы ў парах, групах і пры індывідуальнай самастойнай працы.

*Дадатак 1*

# Форма канспекта ўрока згодна з прынцыпамі АА

| Урок: | Дата: | Клас: |
|---|---|---|

**Тэма:**

Узаемасувязь з атрыманымі раней ведамі:

Мэты заняткаў:

1.

2.

Мэты заняткаў мовай вучня:

1.

2.

НаШтоБузу (на што буду звяртаць увагу):

Як маюць прайсці гэтыя заняткі (метады і заданні):

Ключавыя пытанні да вучняў:

Нататкі і дадатковыя практыкаванні:

Хатняе заданне:

Матэрыялы і дыдактычныя дапаможнікі:

*Дадатак 2*

## Як падрыхтаваць зваротную інфармацыю ад настаўніка да вучня

Паглядзіце на зваротную сувязь, падрыхтаваную Вамі для вучня, і адкажыце на наступныя пытанні:

1. Ці напісалі Вы напачатку якую-небудзь пахвалу ці камплімент?
2. Ці звярталіся Вы да вучня па імені?
3. Ці Вашыя заўвагі тычыліся толькі працы вучня (а не самога вучня)?
4. Ці у Вашай ацэнцы станоўчыя заўвагі пераважаюць адмоўныя?
5. Ці да кожнай крытычнай заўвагі была дададзена прапанова таго, як павінен выглядаць правільны адказ?
6. Ці вучань атрымаў таксама і нейкую агульную параду, якая магла б у будучыні дапамагчы яму дасягнуць лепшых вынікаў?
7. Ці вучню было зададзенае пытанне, якое заахвоціла б яго да далейшых разважанняў над выкананай працай?
8. Ці заўвагі да працы вучня прадстаўленыя зразумелай яму мовай?
9. Ці ўсе Вашыя каментарыі былі дастаткова падрабязнымі?
10. Ці вучань атрымаў параду, у якім кірунку яму трэба развівацца далей?
11. Ці вучню была прапанавана Ваша дапамога ў пераадоленні складанасцей і паляпшэнні сваёй працы?
12. Ці вучню было прапанавана абмеркаванне Вашых каментарыяў, калі ў яго былі да іх заўвагі?
13. Ці ўсе заўвагі былі пасля падсумаваныя?

За кожны станоўчы адказ налічыце сабе адзін пункт. Калі лічба пунктаў не перавышае дзесяць, варта дапрацаваць сваю зваротную сувязь.

*Дадатак 3*

# Прыклады мэт настаўніка і тыя ж мэты мовай вучняў

## ПРАДМЕТ – БІЯЛОГІЯ

**Тэма:** Мышачныя тканкі і іх здольнасць актыўна скарачацца.

**Мэты настаўніка:** распавесці пра будову мышачнай тканкі; развіць здольнасці вучняў да разумення ўзаемасувязі патэнцыялу і функцыі мышачнай тканкі; навучыць вучняў апісваць механізм скарачэння і расслаблення міяфібрыл і абгрунтоўваць сваё меркаванне.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы даведаецеся, як пабудавана мышачная тканка і якім чынам яна працуе; зразумееце важную ролю мышачнай тканкі ў арганізме.

**Тэма:** Тыпы злучэнняў касцей.

**Мэты настаўніка:** вучань ведае тыпы злучэнняў касцей, паказвае, дзе знаходзяцца гэтыя злучэнні, разумее, чым адрозніваюцца гэтыя злучэнні, адрознівае гэтыя тыпы і ведае іх значэнне.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы даведаецеся аб розных тыпах злучэнняў касцей і даведаецеся, чаму розныя тыпы злучэнняў больш ці менш рухомыя (напрыклад, плячо, запясце, локаць або калена).

**Тэма:** Фотасінтэз.

**Мэты настаўніка:** вучань ведае, што такое фотасінтэз, і ведае, якія фактары ўплываюць на гэты працэс; вучань бачыць узаемасувязь паміж эфектыўнасцю працэсу і яго фактарамі.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** пасля гэтага ўрока вы зможаце апісаць працэс фотасінтэзу, а таксама фактараў, якія ўплываюць на яго ход.

## ПРАДМЕТ – БЕЛАРУСКАЯ МОВА

**Тэма:** Асіміляцыя.

**Мэты настаўніка:** тлумачэнне з’явы асіміляцыі.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** мы даведаемся і зразумеем адрозненні паміж гукамі ў напісанні і вымаўленні. Чаму мы пішам пе*с*ня, а вымаўляем пе[*с’*]ня?

**Тэма:** Функцыі назоўніка ў сказе.

**Мэты настаўніка:** вучань ведае функцыі назоўнікаў у сказе (прадмет, дапаўненне, азначэнне), якія адрозніваюць іх у сказе і маюць свае назвы.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы навучыцеся знаходзіць у сказах назоўнікі і пабачыце, у якасці чаго яны могуць выступаць. Іншымі словамі, сённяшняе пытанне "навошта нам назоўнікі?"

**ПРАДМЕТ – АНГЛІЙСКАЯ МОВА**

**Тэма:** Выкарыстанне часоў Present Perfect і Past Simple.

**Мэты настаўніка:** вучань разумее розніцу паміж выкарыстаннем Present Perfect і Past Simple і навучыцца правільна ўжываць іх у сказах.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы даведаецеся, чым адрозніваюца два раней вывучаныя часы, якія належаць да прошлага часу і даведаецеся, калі ўжываць кожны з іх.

**Тэма:** Ежа.

**Мэты настаўніка:** вучань можа згрупаваць словы, што датычаць лексікі па тэме харчавання, вучань ведае тэхніку "ментальнай мапы".

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** пасля гэтага ўрока вы будзеце мець лепшы слоўнікавы запас па тэме "Ежа", ведаць фразы і выразы з гэтае тэмы. Даведаецеся аб цікавай тэхніцы занатоўвання, якая называецца "Ментальная мапа".

**Тэма:** Найлепшы дзень тыдня.

**Мэты настаўніка:** вывучэнне ступеняў параўнання прыметнікаў *good*, *bad*; практыкаванне прадстаўлення ўласнага меркавання.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** сёння мы навучымся прадстаўляць сваё меркаванне па розных пытаннях, будзем гаварыць пра рэчы, якія лічым лепшымі ці горшымі.

**Тэма:** Ступені параўнання прыметнікаў.

**Мэты настаўніка:** вучань стварае розныя параўнальныя формы прыметнікаў.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы навучыцеся параўноўваць розныя рэчы, выкарыстоўваючы прыметнікі, і зразумееце прынцыпы стварэння ступеняў параўнання прыметнікаў.

**ПРАДМЕТ – НЯМЕЦКАЯ МОВА**

**Тэма:** Мой улюбёны часопіс.

**Мэты настаўніка:** пашырыць слоўнікавы запас вучня па тэмах, датычных часопісаў; палепшыць маўленчыя навыкі вучняў.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** пасля ўрока вы зможаце распавесці пра свой улюбёны часопіс па-нямецку.

**ПРАДМЕТ – МАТЭМАТЫКА**

**Тэма:** Графік лінейнай функцыі $y = ax + в$.

**Мэты настаўніка:** вучань зразумее паняцце *лінейная функцыя* і будзе ў стане намаляваць яе графік.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** пасля гэтага ўрока вы будзеце ведаць, чаму лінейная функцыя называецца лінейнай і навучыцеся будаваць яе графік.

**Тэма:** Роўнасці.

**Мэты настаўніка:** вучань здольны запісаць змест задання ў форме алгебраічнага выразу.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы навучыцеся ў сціслай форме прадставіць праблему ці задачу пры дапамозе літар, знакаў і знакаў дзеяння.

**Тэма:** Падлік працэнта ад дадзенай лічбы.

**Мэты настаўніка:** вучань валодае канцэпцыяй працэнтаў, разумее неабходнасць выкарыстання працэнтаў у паўсядзённым жыцці і можа вылічыць працэнтную долю ад дадзенай лічбы.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** пасля ўрока вы будзеце ў стане вылічыць працэнт ад ліку і палічыць кошты ў краме пры зніжках і павышэннях.

**Тэма:** Фалес – чалавек ценю.

(Фалес у Егіпце ўразіў жрацоў і фараона Амасіса тым, што здолеў дакладна знайсці вышыню піраміды Хеопса. Ён дачакаўся моманту, калі даўжыня ценю палкі становіцца роўнай яе вышыні, і тады вымераў даўжыню ценю піраміды.)

**Мэты настаўніка:** патлумачыць вучням, што за адкрыццём заўсёды стаіць яго творца. Фалес, хоць і жыў вельмі даўно, выкарыстаў свае веды, вядомыя (прынамсі, часткова) некаторым навучэнцам, і змог практычна выкарыстаць гэтыя веды.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** мы пастараемся зразумець, як і з выкарыстаннем якіх ведаў Фалес знайшоў вышыню піраміды Хеопса.

**ПРАДМЕТ – ФІЗІКА**

**Тэма:** Маса і вага.

**Мэты настаўніка:** вучань адрознівае масу і вагу, вызначае масу ведаючы вагу цела.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** сёння мы знойдзем розніцу паміж масай і вагой і надалей будзем выкарыстоўваць гэтыя словы правільна. Вы зможаце разлічыць вагу цела на паверхні Зямлі.

**Тэма:** Закон Ома.

**Мэты настаўніка:** плануецца, што вучні будуць ведаць формулу, азначэнне, прымяненні закону Ома; умець: будаваць графікі залежнасці $I(U)$ і $I(R)$, маляваць схему для дэманстрацыі закону Ома.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:**

*Варыянт 1.* Дзеці, урок для вас будзе выніковым, калі вы напрыканцы яго зможаце расказаць аб законе Ома паводле плана, які ў вас ёсць на трэцяй старонцы вашага сшытка.

*Варыянт 2.* Уважліва паглядзіце на дослед. Настаўнік дэманструе залежнасці $I(U)$ і $I(R)$. Фактычна вы ўбачылі праяўленне закону Ома. Калі вы зможаце напрыканцы ўрока сказаць сабе, што ведаеце фармуліроўку і формулу закону, тлумачэнні залежнасцей, якія бачылі на доследзе, то вы можаце ганарыцца сабой: для вас урок не прайшоў марна.

*Варыянт 3.* Дзеці, сённяшняя тэма – адзін з асноўных законаў электрычнасці – закон Ома. Паспрабуйце выбраць для сябе мэту на ўрок з тых, што я прапаную:

• умець расказаць пра закон паводле плана, што змешчаны на трэцяй старонцы сшытка;

• умець запісаць формулу закону і патлумачыць яго сутнасць.

*Варыянт 4.* Дзеці, сёння вы будзеце вывучаць закон Ома. Як мы зможам даведацца, што тэма добра вывучана і мэта ўрока дасягнута?

**Тэма:** Першы закон Ньютана.

**Мэта настаўніка:** вучань ведае і разумее змест першага закону Ньютана.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** сёння нам трэба высвятліць, што адбываецца з целам, калі на яго не дзейнічаюць аніякія сілы, альбо калі дзеючыя сілы знаходзяцца ў раўнавазе. Мы даведаемся, што такое інерцыя.

## ПРАДМЕТ – ІНФАРМАТЫКА

**Тэма:** Пярэдняя і задняя панэлі камп’ютарнага сістэмнага блока.

**Мэта настаўніка:** навучыць вучняў адрозніваць раз’ёмы для падлучэння розных знешніх прыладаў; падтрымка флопі-дыскаў і кампакт-дыскаў, прызначэнне USB, правільная рэакцыя на завісанне камп’ютара.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** вы даведаецеся, як бяспечна падлучыць камп’ютар да сеткі, як карыстацца дыскаводам і CD-ROMам, што рабіць, калі ваш камп’ютар завіс.

## ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА

**Тэма:** Метр.

**Мэта настаўніка:** пазнаёміць вучняў з новай адзінкай вымярэння даўжыні – метрам; сфарміраваць уменне суадносіць і параўноўваць метр з дэцыметрам і сантыметрам.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** сёння на ўроку мы з вамі будзем вымяраць даўжыню і шырыню класа, дошкі, дзвярэй, парты, стала настаўніка, а дапамагаць у гэтых вымярэннях нам будуць метровая лінейка, сантыметровая стужка, школьныя лінейкі.

**Тэма:** Прыметнік як часціна мовы.

**Мэта настаўніка:** фарміраваць у вучняў уяўленне пра прыметнік як часціну мовы; развіваць уменне ўжываць прыметнік у размове; выказваць свае думкі дакладна, прыгожа і зразумела.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** на сённяшнім уроку вы пазнаёміцеся са словамі, якія робяць нашы выказванні зразумелымі, прыгожымі; будзеце правільна і дакладна апісваць розныя прадметы, а таксама жывёл і людзей.

## ПРАДМЕТ – ФІЗІЧНАЯ КУЛЬТУРА

**Тэма:** Перадача мяча ў баскетболе.

**Мэта настаўніка:** вучань перадае мяч адпаведна для гульні ў баскетбол.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** сёння мы будзем вучыцца лепш, хутчэй і трапней аддаваць пас.

## ВЫХАВАЎЧЫЯ ЗАНЯТКІ

**Тэма:** Здароўе сабакі. Прынцыпы бяспекі пры гульні з сабакам.

**Мэты настаўніка:** вучань будзе ў стане клапаціцца пра сабаку, паводзіць сябе асцярожна з чужым сабакам і іншымі жывёламі.

**Тыя ж мэты мовай вучня:** я ведаю, як ставіцца да сабакі, ведаю яго ўлюбёныя і карысныя для яго здароўя прадукты; я магу спакойна гуляць з сабакам; я не набліжаюся да незнаёмых жывёл (сабак, катоў і інш.).

**Тэма:** Пароды сабак. Як сабакі дапамагаюць чалавеку.

**Мэты настаўніка:** вучань ведае папулярныя пароды сабак, можа пазнаць іх на малюнках і можа правільна запісаць іх назвы.

**Тыя ж мэты мовай вучняў:** я ўмею запісаць пяць парод сабак; я ведаю, што клічкі сабак пішуцца з вялікай літары.

*Дадатак 4*

## Прыклады ключавых пытанняў па гісторыі

1. Мы дагэтуль карыстаемся дасягненнямі старажытных цывілізацый. Старажытныя шумеры вынайшлі пісьменства, кітайцы – паперу. Калыскай еўрапейскай цывілізацыі з'яўлялася Старажытная Грэцыя. Мы ўдзячныя старажытным грэкам за развіццё філасофіі, тэатра, алімпійскіх гульняў. А што пакінулі нам ў спадчыну старажытныя рымляне? Падчас сённяшняга ўрока мы і адкажам з вамі на гэтае пытанне і вызначым, якія з дасягненняў старажытных рымлян дагэтуль знаходзяцца ва ўжытку? Уявіце сабе, што вы ўдзельнічаеце ў канферэнцыі гісторыкаў, якія ацэньваюць дасягненні старажытных рымлян. Вашай задачай з'яўляецца вызначэнне пяці самых важных адкрыццяў, якія старажытныя рымляне пакінулі еўрапейцам у спадчыну.

2. Чаму мы не павінны забываць пра генацыд габрэяў? Чаму менавіта габрэі?

3. Чым адрозніваецца праваслаўная царква ад каталіцкага касцёла?

## Прыклады ключавых пытанняў* па матэматыцы

1. У якіх выпадках мы можам запісаць выраз у выглядзе роўнасці?

2. Як вы думаеце, у якіх матэматычных сітуацыях могуць спатрэбіцца ўменні перарабляць звычайныя дробы на дзясятковыя?

3. Колькі літраў паветра змесціцца ў нашым класе?

4. Колькі квадратных метраў паркету спатрэбілася б на пакрыццё падлогі ў тваім пакоі?

5. Праблема: Ты павінен пераплыць раку, каб пасля дапамагчы перабрацца на іншы бераг людзям, якія не ўмеюць плаваць. У цябе толькі адна 30-метровая вяроўка. Ты не ведаеш, наколькі шырокая рака і ці хопіць вяроўкі. Якім чынам ты можаш гэта праверыць? (Тэма ўрока: Тэарэма Фалеса.)

**Варта зазначыць, што ключавыя пытанні не абавязкова павінны мець рысы пытанняў; гэта можа быць праблема, гіпотэза, загадка, задача, тэзіс, сітуацыя, малюнак ці здымак, калаж і нават паводзіны настаўніка.*

*Дадатак 5*

# План урока, згодна з прынцыпамі АА па прадмеце "Мая Радзіма Беларусь" (4 клас)

***Ала Ярмак,***
*настаўніца пачатковых класаў, г. Стоўбцы*

**Тэма:** Мы і нашы суседзі.

**Узаемасувязь з ведамі, атрыманымі раней**: вучні ведаюць пра геаграфічнае палажэнне Беларусі.

**Мэты заняткаў:**
1. Актуалізацыя ведаў пра геаграфічнае палажэнне Беларусі.
2. Пазнаёміць з назвамі і месцам распалажэння краін-суседак Рэспублікі Беларусь.

**Мэты заняткаў на мове вучня:**
Пасля сённяшніх заняткаў вы зможаце:
1. Пералічыць усе вобласці Рэспублікі Беларусь;
2. Назваць усе краіны-суседкі;
3. Паказаць вобласці Беларусі і краіны-суседкі на геаграфічнай карце.

**На Што Бузу** (што вучні будуць у стане выканаць пасля заняткаў):
1. Адказваць на пытанні па параграфе падручніка;
2. Паказваць вобласці Беларусі і краіны-суседкі на геаграфічнай карце;
3. Маляваць на контурнай карце межы;
4. Пры дапамозе колераў вылучаць на контурнай карце вобласці Беларусі.

**Матэрыялы і дыдактычныя дапаможнікі:** атлас, контурная карта, падручнік, сшытак на друкаванай аснове, камп'ютар для прагляду фільма.

**Як павінны прайсці гэтыя заняткі** (метады і заданні):
*Арганізацыйны момант.* Дзеці становяцца ў кола і па чарзе адказваюць на адно пытанне: "Што можна расказаць пра нашу Радзіму замежным гасцям?"
*Матывацыйныя пытанні:* Ці ведаеце вы, хто з'яўляецца нашымі суседзямі? Дзе размешчана Беларусь на карце Еўропы? Якая плошча нашай краіны? У якой вобласці жывяце вы? Чаму вобласці Беларусі маюць такія назвы?

*Вывучэнне новага матэрыялу.*

– Прагляд мультымедыйнага фільма "Мы і нашы суседзі".
– Чытанне з каментаваннем і запісам на дошцы па форме: я ведаў; я даведаўся; я хачу даведацца (матэрыял падручніка с. 7 – 9).
– Адказы на пытанні падручніка.

*Праца ў парах з атласамі.*

– Шукаем Беларусь, усе яе вобласці, дзяржаўную мяжу, краіны-суседкі.

*Самастойная праца з контурнымі картамі* (заданні прапісаны ў контурных картах).

*Узаемаправерка выкананага на контурных картах задання* (у парах).

*Праца ў сшытках на друкаванай аснове.*

**Рэфлексія**. Методыка "Закончы фразу".
Я даведаўся...
Мне было цікава таму, што...
Я магу падзякаваць (каму і за што)...
Я сёння працаваў...

**Ключавыя пытанні да вучняў:**
1. Што б вы расказалі нашым суседзям пра сваю Радзіму?
2. Да якой краіны-суседкі вам хацелася б завітаць у госці і чаму?

**Нататкі і дадатковыя практыкаванні:** праца у сшытках на друкаванай аснове па тэме ўрока (Г. Дылько, с. 5 – 6).

**Хатняе заданне.** Вывучыць верш на памяць.

Мяжуе з Польшчай, Украінай,
Расіяй, Латвіяй, Літвой.
Твой родны край, твая Радзіма
Жыццё тваё і гонар твой.
І ты яе запомні імя
Як неба, сонца і зару
Твая зямля, твая Айчына
Названа светла – Беларусь!

Ю. Свірка.

*Дадатак 6*

# План выхаваўчых заняткаў згодна з прынцыпамі АА

***Вольга Каляда,***
*выхавацель Жабінкаўскага раённага*
*сацыяльна-педагагічнага цэнтра*

**Тэма:** Сабака – верны сябар чалавека.
Узрост: 5 – 13 гадоў.

**Узаемасувязь з ведамі, атрыманымі раней:** малодшыя ведаюць хатніх жывёл, ведаюць, што чалавек клапоціцца пра іх; старэйшыя маюць веды пра значэнне хатніх жывёл для чалавека, умовы іх утрымання.

**Мэты заняткаў:**
1. Пашыраць уяўленні дзяцей пра ролю сабакі ў жыцці чалавека.
2. Развіваць пачуцце адказнасці за жыццё хатніх жывёл.
3. Пабуджаць да праяўлення спачування да жывёл, якія трапілі ў бяду.

**Мэты заняткаў на мове дзяцей:** пасля сённяшняга занятку вы даведаецеся: навошта людзі бяруць дадому сабаку; як і навошта патрэбна клапаціцца пра сабаку.

**НаШтоБузу** (што дзеці будуць ведаць пасля занятку):
1. Умеюць адказваць на пытанні па змесце прачытанага.
2. Ведаюць пра значэнне сабакі ў жыцці чалавека.
3. Ведаюць, як чалавек павінен клапаціцца пра свайго вернага сябра – сабаку.

**Ход заняткаў:**
1. Патлумачыць дзецям мэты занятку і НаШтоБузу.
• Загадванне загадкі пра сабаку.
• Расказ пра ролю сабакі ў жыцці чалавека (пастух, паляўнічы, ратаўнік, пагранічнік, касманаўт).
• Робіцца выснова: сабака ніколі не пакіне чалавека ў бядзе.
• Адказы на пытанне: А чалавек? – па коле (перадаюць адзін аднаму цацку-сабаку).

2. Чытанне часткі казкі “Брэменскія музыкі” братоў Грым. Адказы на пытанні па прачытаным (выцягваецца нейкая рэч кожнага вучня з “цудоўнага мяшэчка”– вызначэнне чаргі адказу):

• Што здарылася з жывёламі?
• Чаму сабака збег ад гаспадара?
• Ці шкада вам жывёл? Як можна ім дапамагчы?

3. Выхавацель робіць  выснову: чалавек, калі бярэ да сябе нейкую жывёлу, нясе вялікую адказнасць за яе жыццё. Добры чалавек ніколі не прагоніць жывёлу з хаты.
• Чытанне расказа “Стары сабака” В. Сухамлінскага.

4. Ролевая гімнастыка: трэба паказаць, як вінаваты сабака лашчыцца да гаспадара, сабака ласкава скавыча, чалавек сумна ўздыхае, сабака вельмі рады новаму сябру-шчанюку.
Даецца час на прыдумванне таго, як чалавеку неабходна клапаціцца пра свайго сабаку. Выказваюцца тыя, чыю рэч я дастану з “цудоўнага мяшэчка”. Пасля выказваюцца тыя, хто прыдумаў тое, чаго яшчэ не назвалі.

5. Расповед пра сабак, якія дапамагаюць жыць і перамяшчацца людзям, што не маюць зроку.

6. Гульнявое практыкаванне “Сабака-павадыр”.
Дзеці разбіваюцца на пары па росце. Адзін праводзіць другога, у якога завязаны вочы, па пакоі, дзе шмат перашкод. Потым змена роляў.

7. Абагульненне.

**Ключавое пытанне:**
Чалавек ці сабака з’яўляюцца больш вернымі ў сваім сяброўстве? Чаму ты так лічыш?

*Дадатак 7*

# План урока згодна з прынцыпамі АА па прадмеце “Беларуская мова і літаратура”

***Таццяна Барткевіч,***
*настаўніца беларускай мовы і літаратуры, г. Глыбокае*

**Тэма.** Складаныя назоўнікі, іх правапіс.

**Мэты:** 1) мяркуецца, што да заканчэння ўрока вучні будуць ведаць: спосабы ўтварэння складаных назоўнікаў, правілы напісання галосных ў складаных словах, складаных назоўніках, умець: знаходзіць такія назоўнікі ў тэксце, высвятляць іх лексічнае значэнне і сэнсава-граматычную ролю, адрозніваць спосаб словаскладання ад асноваскладання, правільна выбраць галосную для напісання ў складаным назоўніку; 2) спрыяць засваенню вучнямі правапісу складаных назоўнікаў, фарміраванню навыкаў аналітычнага мыслення, самастойнай працы і працы ў групе; 3) садзейнічаць павышэнню вучэбнай матывацыі пры дапамозе ілюстрацыйнага матэрыялу, выкарыстаных прыёмаў і метадаў.

**Мэта на мове вучняў:** на ўроку я даведаюся, як утвараюцца складаныя назоўнікі, навучуся знаходзіць іх у тэксце, правільна пісаць і ўжываць у маўленні. Змагу выканаць практыкаванне на правапіс складаных назоўнікаў.

**Абсталяванне:** падручнік, рознакаляровыя карткі для зваротнай сувязі.

## Ход урока

### 1. Арганізацыйны этап.

*Мэта:* псіхалагічная падрыхтаванасць класа да ўрока, арганізацыя ўвагі вучняў.

*Педагагічная задача:* арганізаваць і падрыхтаваць вучняў да работы.

Метад “Кацянятка”. Спрыянне стварэнню станоўчага настрою, арганізацыі ўвагі. Настаўнік прапануе вучню ўявіць, што ён трымае ў руках маленькае кацяня і на кожны рад “аддае” ў рукі дзецям белае, пушыстае, тоўсценькае (1 рад), рыжае, з белай “манішкай” і зялёнымі вочкамі (2 рад), чорнае, з белымі вусамі і

белымі “шкарпэтачкамі” (3 рад). Дзеці могуць пагладзіць уяўнае кацяня па галаве, пацерабіць за вушкам і перадаць сваім сябрам. Калі кацяня перадалі апошняму ў радзе вучню, той выпускае яго на падлогу. Заданне – пагладзіць або пацерабіць свайго суседа.

**2. Арыенціровачна-матывацыйны этап.**

*Мэта:* садзейнічаць актывізацыі суб’ектыўнага вопыту вучняў, развіццю пазнавальнага інтарэсу, матывацыі, самавызначэнню на вынік ўрока.

*Педагагічная задача:* актуалізаваць апорныя веды і ўменні, сфарміраваць пазнавальныя матывы, стварыць умовы для самавызначэння вучняў на дзейнасць і яе выпікі.

Настаўнік аб’яўляе тэму ўрока і прапануе вучням сфармуляваць мэту.

На дошцы запісваецца НаштоБуЗУ:

• Калі складаныя назоўнікі пішуцца разам, а калі праз злучок.

• Правапіс галосных *о*, *а*, *э* ў складаных назоўніках.

• Правапіс галосных *е*, *ё*, *я* ў складаных назоўніках.

| Дзейнасць настаўніка | Дзейнасць вучняў |
|---|---|
| Настаўнік прапануе вучням напісаць слоўнікавы дыктант на правапіс складаных назоўнікаў, падчас якога высвятляецца, што ў вучняў ёсць праблемы ў напісанні назоўнікаў разам (асобна), праз злучок, з напісаннем галосных *о, а, е, ё*<br><br>Словы для дыктанта ўзяты з правілаў, што змешчаны ў падручніку: *ільновалакно, жыццялюб, вадазбор, легкадум, собалегадоўля, медагонка, мёдаварэнне, мотаспорт, фотакопія, папараць-кветка, прэм'ер-міністр, жар-птушка.* | Вучні запісваюць пад дыктоўку словы |
| Прапануе пазначыць словы, у напісанні якіх яны не сумняваліся (+) і тыя, у напісанні якіх былі не ўпэўнены (?)<br><br>Дае заданне папрацаваць у групах, праверыць напісанае, абмеркаваць, а затым адшукаць адказы на праблемныя пытанні ў падручніку | Выконваюць заданне настаўніка, працуюць самастойна, вызначаюць праблемныя месцы<br><br>Наладжваецца ўзаемаправерка ў групах па 4-5 чалавек<br>Вучні шукаюць адказы на пытанні, што ўзніклі падчас працы, у правілах, змешчаных у падручніку. |
| Дае заданне разгледзець форзац падручніка, дзе змешчана табліца са спосабамі ўтварэння слоў і адказаць на пытанне:<br>– Чым адрозніваецца спосаб словаскладання ад асноваскладання?<br>Каменціруе адказы вучняў, дапамагае знайсці правільнае рашэнне | На працягу ўсёй працы вучні карыстаюцца сігнальнымі карткамі, зробленымі накшталт "методнікаў", якія прапанавалі польскія настаўнікі<br><br>Выказваюць свае меркаванні |

**3. Аперацыйна-пазнавальны этап.**

*Мэта:* авалоданне вучнямі спосабамі ўтварэння складаных назоўнікаў і засваенне іх правапісу.

*Педагагічныя задачы:* арганізаваць мэтанакіраваную пазнавальную дзейнасць вучняў, іх трэніроўку ў тых дзеяннях, авалодванне якімі з'яўляецца мэтай урока.

| Дзейнасць настаўніка | Дзейнасць вучняў |
|---|---|
| Пытаецца, што даведаліся вучні падчас працы са словамі і матэрыялам параграфа | Адказваюць на пытанне настаўніка |
| Прапануе паставіць мэту на наступны этап урока | Вучні выказваюць меркаванне адосна неабходнасці ўдасканаліць набытыя веды, замацаваць іх пры дапамозе іншых практыкаванняў |
| Праводзіць фізкультхвілінку | Вучні свабодна рухаюцца па класе. Настаўнік называе любы лік ад 1 да 7. Вучні аб'ядноўваюцца ў малыя групы, колькасць дзяцей вызначаецца названым лікам. Група атрымлівае заданне. Пасля выканання задання вучні працягваюць свабодна рухацца. Заданні могуць быць наступнымі:<br>– кожны з'яўляецца афіцыянтам у шматлюдным рэстаране;<br>– адзін выконвае розныя рухі, а другі з'яўляецца яго ценем;<br>– усе танцуюць пад адным парасонам |
| Настаўнік прапануе вярнуцца да працы і выканаць практыкаванне на выбар (пр. 169 або 171 ), затым наладзіць узаемаправерку ў парах. Назірае за тым, як ідзе праца, адказвае на пытанні вучняў, якія просяць аб дапамозе, тлумачыць незразумелыя моманты | Выконваюць практыкаванне, правяраюць правільнасць выканання задання ў парах, карыстаюцца карткамі для зваротнай сувязі |

**4. Кантрольна-ацэначны этап.**

*Мэта:* высвятленне дзецьмі сваёй кампетэнтнасці ці сваіх памылак, звязаных з новым вучэбным матэрыялам, праца з перфакартай.

*Педагагічная задача:* стварыць умовы для самакантролю, карэкцыі і самаацэнкі ведаў, уменняў і дзейнасці вучняў.

| Дзейнасць настаўніка | Дзейнасць вучняў |
|---|---|
| Прапануе папрацаваць з перфакартай, уставіць прапушчаныя літары, а затым зверыць правільнасць выканання з ўзорам, які змешчаны на дошцы, ацаніць сябе паводле вызначаных крытэрыяў | Выконваюць заданне настаўніка |
| Шляхам гутаркі вызначае ўзровень выканання тэста.<br>Прапануе абмеркаваць у парах вынікі сваёй працы і адказаць на пытанні:<br>– Што новага даведаўся сёння на ўроку?<br>– Чаму навучыўся?<br>– Што трэба зрабіць, каб на наступным уроку пры праверцы дамашняга задання атрымаць лепшую адзнаку? | Удзельнічаюць у гутарцы, ацэньваюць сваю працу, ставяць мэты на наступны ўрок |
| Арганізуе рэфлексію, падводзіць вынікі ўрока. Дзякуе вучням за працу | |

**5. Этап дамашняга задання.**

| Дзейнасць настаўніка | Дзейнасць вучняў |
|---|---|
| Запісвае дамашняе заданне на дошцы | Запісваюць у дзённік дамашняе заданне |
| Прапануе прачытаць умову і адказаць на пытанне, ці зразумела, што неабходна зрабіць дома | Чытаюць умову і адказваюць на пытанне настаўніка |

## Карысныя спасылкі

**Больш пра актыўную ацэнку:**

http://aacenka.by
http://nastaunik.info
http://ceo.org.pl/pl/ok
http://en.wikipedia.org/wiki/Formative_assessment
http://formative-assessment.com
Часопіс "Кіраванне ў адукацыі" №12, 2011.
Часопіс "Пачатковая школа" №8, 2011.

**Актыўная ацэнка**
Навучальна-метадычнае выданне

Укладанне Наталля Ільініч
Рэдактар Тамара Мацкевіч
Карэктар Вольга Крукоўская
Пераклад Вольга Мазурава
Тэхнічны рэдактар Юрась Новікаў
Малюнкі Юлія Малахоўская, Данута Стэрна

Падпісана да друку 05.12.2011. Фармат 60x841/16.
Гарнітура Times. Папера афсетная. Наклад 299.
Издательство «Юстинус» (г. Белгород, ул. Центральная, 103а)
Отпечатано: Типография «С-Принт»,
214020, г. Смоленск, ул. Шевченко, 71 оф. 48.